# Рэгіянальная газета.Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

21 ліпеня 2017 года №29 (1160)





**Маладзечанка распавядае пра 23 гады жыцця ў Якуціі**

старонкі 20-21

# Агародніна: садзіць ці купляць?

**Пакуль мы думаем над гэтым пытаннем, Кацярына Францкевіч з Краснага вырошчвае духмяны кроп, цыбулю, бульбу і іншую агародніну.**

старонка 3

Фота Кацярыны КАСЦЕВІЧ.

● НАВІНЫ

## У бальніцы з'явяцца новыя аддзяленні

АСТРАВЕЦ

Міжраённыя аддзяленні па аказанні кардыялагічнай, гінекалагічнай і іншых відаў дапамогі з'явяцца ў астравецкай бальніцы.

Новы будынак ЦРБ будуюць у маладым мікраёне Астраўца па рэспубліканскай інвестыцыйнай праграме. Адкрыць яе мяркуюць у 2018 годзе.

У ёй плануецца 370 ложкаў, таму і прапанавана размясціць у міжрайцэнтры. Гэта значыць, што пры неабходнасці сюды будуць прывозіць пацыентаў не толькі са свайго раёна, але і з бліжэйшых.

У новай бальніцы з'явіцца педыятрычнае аддзяленне на 40 ложкаў, тэрапеўтычнае на 60, хірургічнае на 60, аддзяленне анестэзіі і рэанімацыі на 12, радзільня з аперацыйнай на 40.

Пасля адкрыцця бальніцы ў цяперашнім будынку РЦБ размесцяць паліклініку.

"Гродзенская праўда".

## 22 ліпеня можна задаць пытанні старшыні вілейскага райвыканкама

ВІЛЕЙКА

У суботу правядуць "прамую лінію" са старшынёй вілейскага райвыканкама **Віктарам Катом**.

Задаваць пытанні можна ад 9:00 да 12:00 па тэлефоне 8 (01771) **5-52-41**.

Пра гэта распавялі ў вілейскім райвыканкаме.

Аддзел інфармацыі.

## Прызначылі начальніка аддзела ўнутраных спраў

АШМЯНЫ

18 ліпеня прадставілі новага начальніка Ашмянскага РАУС – падпалкоўніка міліцыі **Аляксандра Рэба**.

Новага кіраўніка прызначылі на пасаду загадам Міністра ўнутраных спраў ад 13 ліпеня.

"Ашмянскі веснік".

## Пачаў працу тэматычны моладзевы летнік

ВАЛОЖЫН

Моладзевы летнік "Вывучай. Дзейнічай. Падзяліся" па тэматыцы процідзеяння гандлю людзьмі адкрыўся ў Ракаве 17 ліпеня.

Тэматыка летніка прысвечаная Сусветнаму дню барацьбы з гандлем людзьмі, які штогод адзначаюць 30 ліпеня. Летнік "Вывучай. Дзейнічай. Падзяліся" – працяг кампаніі Міжнароднай арганізацыі па міграцыі "Спыні гандаль людзьмі", якую запусцілі ў рэспубліцы ў мінулым годзе.

Мерапрыемства арганізаванае прадстаўніцтвам Міжнароднай арганізацыі па міграцыі ў Беларусі сумесна з Міністэрствам замежных спраў, Міністэрствам унутраных спраў пры падтрымцы прадстаўніцтва ў ПРААН.

Удзельнікі – актыўныя маладыя людзі, абраныя спецыяльнай камісіяй на конкурснай аснове.

Аддзел інфармацыі.

## Працуе выстава пра Гары Потэра

МЯДЗЕЛ

Дакрануцца да чараўніцтва і здзейсніць падарожжа ў сусвет знакамітага чараўніка Гары Потэра можна на выставе ў Мядзельскім музеі народнай славы.

На ўваходзе кожны наведнік можа прайсці размеркаванне пры дапамозе Сартавальнага Капелюша.

У сярэдзіне можна ўбачыць, як выглядаюць запрашэнне ў гэту школу і квіток на платформу 9 і 3/4, знайсці разнастайныя чароўныя прадметы і адзенне юных герояў, а таксама мантыю і круглыя акуляры з металічнай аправай – такія ж, як носіць знакаміты чараўнік, расказалі супрацоўнікі музея.

На выставе прадстаўленыя разнастайныя экспанаты з прыватнай калекцыі: жывапіс, скульптуры і арт-працы мастакоў і майстроў-прыхільнікаў Гары Потэра і яго сяброў. Працягнецца выстава да 25 жніўня.

"Нарачанская зара".

## Запрашаюць на фестываль моладзевых субкультур

СМАРГОНЬ

22 ліпеня пройдзе фестываль "Моладзевы акцэнт".

Пачнецца апоўдні, а закончыцца апоўначы. Свята будзе ў амфітэатры і гарадскім парку.

Для аматараў "цяжкай музыкі" выступяць рок-гурты "Планета ўсіх" з Вілейкі, "Дабл" з Нарачы, "Меандр" і "Memory" са Смаргоні.

Для прыхільнікаў хіп-хопа арганізуюць выступленне мясцовых выканаўцаў. Чакаецца таксама шоу ды-джэяў.

Клуб аматараў БМВ пакажа выставу сваіх аўто, а байкеры прэзентуюць моташоу.

Плануюцца майстар-класы, а таксама фестываль фарбаў "ColorFest".

"Светлы шлях".




Аляксандра Парахня – арганізатар фестывалю "Самаход". Дзяўчына распавядае гледачам пра свае падарожжы па Балканах. А каб прысутныя зразумелі ўсё ў дэталях, запаўняе карту Балканаў – падпісвае разам з гасцямі назвы краін і сталіц.

Пра кампанію "Без візы" і яе поспехі распавядае каардынатар кампаніі Васіль Бялько.

Андрусь Такінданг падтрымаў фестываль, выступіўшы для віляйчан, а тыя ў адказ смела падпявалі.

# Як бы мы падарожнічалі без візы

ВІЛЕЙКА

**Аб тым, як бы палягчала жыццё аматараў вандраваць, калі б палітыкі дасягнулі дамоўленасці па спрашчэнні ці нават адмене віз, абмяркоўвалі ў Вілейцы 15 ліпеня.**

Фестываль "Самаход" сабраў падарожнікаў і тых, хто хацеў бы вандраваць, але пакуль атрымліваецца не вельмі. Ці праўда, што магчыма адпачыць за межамі Беларусі без вялізных укладанняў грошай і сіл, дзяліліся арганізатары свята.

Фестываль "Самаход" і сам падарожнічае па краіне. Такое мерапрыемства ладзілі ў Брэсце, Мінску і іншых гарадах, а цяпер сабралі і ў Вілейцы. Арганізавала яго ў нашым рэгіёне ўзялася журналістка, выкладчыца і дызайнер, сяброўка грамадскай кампаніі "Без візы" **Аляксандра Парахня** з Маладзечна.

Яна сама вырашыла падзяліцца і сваім досведам падарожжа. Дзяўчына вучылася ў магістратуры польскага ўніверсітэта, а каб атрымаць стыпендыю, мусіла выканаць умову – вучыць адну з балканскіх моў. Яна абрала сербскую. Так і пачала вывучаць культуру і гісторыю балканскіх краін, а з цягам часу як можна было іх не наведаць.

### Калі вы збіраецеся ў падарожжа па Балканах

З беларускім пашпартам віза не трэба ў дзвюх балканскіх краінах – Сербіі і Чарнагорыі. Самалётам ляцець туды танней з Вільні ці Варшавы, чым з Мінска. А вось на машыне ехаць даволі небяспечна: гарыстыя дарогі могуць пакарыць толькі кіроўцы-асы. Зрывы аўтобусаў і цягнікоў з гор – гэта не нешта неверагоднае ў гэтых краінах. Акрамя таго, ехаць у Балканы даводзіцца праз еўрапейскія краіны з платным аўтабанам, а беларусам гэта з'ява не самая прыемная.

На Балканах некалькі краін, і кожная са сваім каларытам. Пачытаць адметнасці краіны – вашага пункта прызначэння – варта загадзя, бо інакш вы можаце быць проста непадрыхтаванымі да мясцовых асаблівасцяў. Напрыклад, у Албаніі нават не спадзявайцеся на пунктуальны грамадскі транспарт. Расклад цягнікоў – як званок у школе для настаўніка, – для кіроўцы. Вашы скаргі аб спазненні на паўгадзіны ніхто нават слухаць не будзе.

Калі вы ў Албаніі і не ведаеце албанскую мову, вам не пашанцавала. Не выратуе нават калі вы паліглот. Аляксандра распавядала, што ў кафэ ніяк не магла патлумачыць, што хоча каву, на якіх бы мовах ні гаварыла. Таму трэба ці карыстацца перакладчыкам, ці маляваць на паперцы.

Таксама варта паклапаціцца пра тое, каб мець наяўныя грошы. Не паўсюль можна зручна зняць па картцы ці разм'яняць.

Рэлігійнае пытанне таксама актуальнае для Балканаў. У той жа Албаніі нярэдкая карціна, калі ў плюс 40 дзяўчына ў прасторным чорным адзенні, з якога бачныя толькі вочы, ідзе побач з маладым чалавекам у майцы і шортах.

### Па жаніхоў – у Македонію

Аляксандра падзялілася і іншай прыгодай. Дзяўчына прыснула на лужку і прачнулася ад моцнага шуму. Падхапіўшыся, убачыла, што вакол яе людзі, якія ідуць і гучна гавораць на незразумелай мове. Убачыць такое непадрыхтаванаму можа быць незразумелым, таму лепш загадзя арыентуйцеся, што на Балканах значная частка насельніцтва – мусульмане, якія некалькі разоў на дзень робяць намаз.

Боснія – вельмі патрыярхальная краіна. Мясцовых жанчын на вуліцы сустрэнеш толькі ў рабочы час. Вечарам яны сядзяць дома, а вечары ў кавярнях правядзяць толькі мужчыны.

У Македоніі маладзечанка атрымлівала прапановы замужжа ледзь не ад кожнага сустрэчнага. Македонскія "жаніхі" – таксама незразумелая з'ява для непадрыхтаванай падарожніцы.

### У адзін Львоў турыстаў прыязджае ў 50 разоў больш, чым ва ўсю Беларусь

**Васіль Бялько**, каардынатар кампаніі "Без візы", распавёў пра рух Беларусі ў бязвізавым накірунку.

Ён адзначыў, што адмена віз у Беларусь да пяці дзён – сур'ёзны крок. Але самі беларусы яшчэ мусяць губляць час і грошы на візы. Беларусь і ЕС пачалі перамовы аб спрашчэнні візавага рэжыму. Спрашчэння не адбываецца, таму што з апошнім крокам Беларусь цягне гадамі. Для падарожжа Беларусам неабходна зрабіць біяметрычныя пашпарты.

– ЕС закупіў усё неабходнае, друкуй хоць заўтра, – распавядае Васіль. – А мы не спяшаемся. І самі ад гэтага пакутуем, калі плацім 60 еўра за візу.

Васіль адзначыў і тое, што хаця крок з пяцідзённай адменай віз і важны, але ён недастатковы. Білеты да нас дарагія, таму што няма лаўкостаў. Таксама мы не выпрацавалі зразумелы брэнд Беларусі, з якога было б зразумела, для чаго трэба ляцець у Беларусь, мяркуе каардынатар.

Ён параўнаў, што за чатыры месяцы праз аэрапорт зафіксавалі 20 тысяч замежнікаў, якія прыехалі ў Беларусь. Здаецца, някепска, пакуль не чуеш іншую лічбу: адзін украінскі Львоў прымае ў год тры мільёны турыстаў.

Апошняй часткай фестывалю стала выступленне **Андруся Такінданга** і **Кастуся Лісецкага**.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота аўтара**
**Больш фота на сайце**
Rh.by

**Даведка "РГ".** Лаўкост – авіяперавозчыкі з таннымі білетамі.

# Агародніна: садзіць ці купляць?



Фота Кацярыны КАСЦЕВІЧ.

Галіна Сімвалокава з Краснага, былая выхавальніца дзіцячага садка, пахвалілася выдатнай бульбай і памідорамі.

**Час на лецішчы людзі бавяць па-рознаму. Адны з ранняй вясны высаджваюць на падваконнях расаду перцаў, агуркоў і памідораў. А пасля ганарацца ўраджаем.**

Іншыя лічаць, што лецішча – месца выключна для адпачынку. Таму трацяць грошы на прыгожыя лаўкі, арэлі, альтанкі і мангал для шашлыкоў.

Садзяць кветкі або газонную траву. Агародніну набываюць у магазінах і на рынку. Маўляў, не так гэта і дорага.

Сям'я дачнікаў з Вілейшчыны на агародзе вырошчвае бульбу, цыбулю, часнок, моркву, агуркі, буракі, кабачкі, крыху гароху і бобу. Да новага ўраджаю амаль усяго хапае.

Вясной звычайна бяруць па два-тры пачкі насення агародніны.

Цыбулі-сеянкі купляюць пару кілаграмаў. Сёлета на рынку кілаграм яе каштаваў чатыры рублі.

З кілаграма сеянкі вырастае каля 15 кілаграмаў цыбулі. Адпаведна каля 30 з двух кілаграмаў.

Цяпер цыбуля на рынку каштуе рубель трыццаць капеек. За трыццаць кілаграмаў трэба аддаць 39 рублёў. Атрымліваецца, амаль у пяць разоў даражэй.

Калі летам спрыяльнае надвор'е, то цыбуля цэлы год не гніе, захоўваецца добра.

Да таго ж на працягу канца вясны і амаль усё лета з градкі можна браць свежае зялёнае пер'е для салаты. А каштавала яно вясной – да паўтара рубля за пучок.

Які ж ураджай атрымліваецца з аднаго пачка насення? Возьмем моркву. Звычайна ў пакеце два грамы насення. Вясной пакет каштаваў тры рублі. Апошнім часам гаспадары бяруць насенне ў стужках: яго садзіць больш зручна.

Даўжыня стужкі ад васьмі да дзесяці метраў. Насенне ўзыходзіць не ўсё. Звычайна больш за палову.

Калі морква падрасце, большасць гаспадароў стараюцца яе прарэдзіць.

Таму частка магчымага ўраджаю таксама губляецца. У выніку пры добрых умовах за тры рублі, па словах агароднікаў, вырастае недзе каля 60 кілаграмаў.



Фота Кацярыны КАСЦЕВІЧ.

Таццяна Касцевіч з Краснага перасаджвае агуркі.

**А калі купляць? Морква на рынку цяпер каштуе рубель пяцьдзесят капеек. За 60 кілаграмаў атрымліваецца 90 рублёў. Даражэй у 30 разоў.**

Частку морквы гаспадары захоўваюць свежай у падвале, частку адразу дзяруць на буйную тарку і замарожваюць. Кажуць, так зручна выкарыстоўваць для першых і другіх страў.

Бульбы садзяць мяшка паўтара. Гэта прыкладна 60 кілаграмаў. Выбіраюць каля шасці мяшкоў, гэта значыць, 240 кілаграмаў. Калі набываць гэту колькасць па кошце адзін рубель пяцьдзесят капеек, трэба патраціць больш за 300 рублёў.

Па такіх разліках, мець агарод выгадна. Да таго ж многія дачнікі вам раскажуць пра тое, які кайф назіраць за тым, як растуць пасаджаныя табой вітаміны, а пасля з пачуццём найвялікшай радасці закатваць іх у слоікі.

Многія агароднікі адзначаюць яшчэ і тое, што ўласна вырашчаная агародніна дакладна не ўтрымлівае ніякіх шкодных рэчываў. Бабуля з задавальненнем пачастуе ўнука агурочкам з уласнага агарода. Бо хто ж ведае, якімі нітратамі нашпігаваная зеляніна з рынку.

Грошы, якія ідуць на тое, каб даехаць да лецішча, у кошт агародніны не ўключаюць. Тым больш, пенсіянерам на працягу ўсяго лета 50-працэнтная зніжка на міжгародні праезд.

Фізічны рэсурс, а менавіта працу, пасля якой баляць рукі, ногі, а часам абвастраецца радыкуліт, таксама мала хто ўлічвае.

Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 13.07 | 20.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9780 | **1,9493** |
| Еўра | 2,2650 | **2,2468** |
| Злоты, 10 | 5,3375 | **5,3358** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2612 | **3,2921** |
| Грыўня, 100 | 7,6326 | **7,5103** |
| Курсы ў "Банку БелВЭБ" | 12.07 | 19.07 |
| Еўра | 2.2500/2.2800 | **2.2400/2.2590** |
| Долар ЗША | 1.9750/1.9900 | **1.9450/1.9570** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 12.07 | 19.07 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | **16,98** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,65 | **6,65** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Селядзец, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,30 | **1,30** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,20 | **2,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,65 | **0,65** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,30 | **1,30** |
| Часнок, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Капуста (маладая), 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Морква (маладая), 1 кг | 1,50 | **1,60** |
| Кабачкі, 1 кг | - | **1,60** |
| Лімоны (маладыя), 1 кг | 4,90 | **4,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,50 | **3,50** |
| Дыня, 1 кг | 3,00 | **2,00** |
| Буракі (маладыя), 1 кг | 1,20 | **1,00** |
| Памідоры, 1 кг | 2,40 | **2,40** |
| Агуркі, 1 кг | 1,50 | **1,40** |
| Перац, 1 кг | 2,50 | **2,00** |
| Кавун, 1 кг | 1,20 | **0,95** |
| Вінаград, 1 кг | 4,90 | **4,35** |
| Грэйпфрут, 1 кг | - | **4,00** |
| Чарэшні, 1 кг | 5,50 | **6,50** |
| Персікі, 1 кг | 4,00 | **3,45** |
| Нектарыны, 1 кг | 4,00 | **3,85** |
| Абрыкосы, 1 кг | 3,50 | **3,45** |
| Бананы, 1 кг | 2,75 | **2,20** |
| Мандарыны, 1 кг | - | **4,90** |
| Гранаты, | - | **9,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,30 | **1,95** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 4,30 | **4,00** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,20 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Бульба (маладая), 1 кг | 1,20 | **1,50** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | **6,50** |

НАВІНЫ

## Следчыя шукаюць людзей, каму нешта вядома пра труп у Красным

МАЛАДЗЕЧНА

30 чэрвеня ўвечары на зямельным участку каля дома №101 па вуліцы 1 Мая ў Красным у хляве знайшлі труп невядомага мужчыны.

Маладзечанскія следчыя ўстанаўліваюць асоб, якім нешта вядома пра памерлага.

На выгляд мужчыну 50-55 гадоў, невысокі, хударлявы.

Мяркуюць, што смерць наступіла ў канцы восені–пачатку зімы 2016 года.

Людзей, якія ведаюць што-небудзь пра асобу памерлага, просяць патэлефанаваць на нумар 8 (0176) 772642 следчаму **Арцёму Семяніду** або звярнуцца ў кабінет 212 маладзечанскага РАСК на адрас: вул. Прытыцкага, 23.

**Пётр ВАРАЧКОЎ, начальнік Маладзечанскага РАСК.**

## ДАІ Маладзечна праводзіць акцыю "Хуткасць"

МАЛАДЗЕЧНА

Перавышэнне хуткасці – адна з асноўных прычын дарожна-транспартных здарэнняў на Міншчыне.

Каб выявіць і папярэдзіць такія парушэнні, ад 20 да 23 ліпеня ДАІ Маладзечна ладзіць акцыю "Хуткасць".

Супрацоўнікі ДАІ распавядуць пра акцыю ў працоўных калектывах, узмоцняць кантроль за выкананнем кіроўцамі патрабаванняў правілаў дарожнага руху.

З мэтай кантролю на дарогах інспектары будуць выкарыстоўваць аўтамабілі ДАІ цывільнай афарбоўкі са спецыяльнымі прыборамі.

Парушальнікам ДАІ нагадвае, што за перавышэнне хуткасці ад 10 да 20 кіламетраў у гадзіну прадугледжаны штраф 23 рублі, ад 20 да 30 кіламетраў у гадзіну – 23-69 рублёў, на 30 і больш – ад 69 да 230 рублёў.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС.**



## Госць збіў гаспадара за тое, што не падзяліўся гарэлкай

ВАЛОЖЫН

Здарэнне адбылося ў канцы мая ў Валожынскім раёне.

38-гадовы мужчына зайшоў у госці да знаёмага, які прапанаваў падзарабіць на халтуры. Разам селі за стол і пачалі выпіваць.

Праз некаторы час выпіўка закончылася, госць сказаў гаспадару схадзіць па спіртное і даў на гэта грошы.

Гаспадар як пайшоў, дык і прапаў. Госць бачыць, што трэба ісці, каб паспець на аўтобус. Але як толькі выйшаў са двара, заўважыў гаспадара, які вяртаўся дадому. Пытаецца, дзе гарэлка. А гаспадар ужо п'яны і без гарэлкі. Госць не вытрымаў, што яго грошы прапілі, не падзяліўшыся, і двойчы ўдарыў гаспадара, у выніку чаго зламаў яму ніжнюю сківіцу.

Госця прыцягнулі да крымінальнай адказнасці па артыкуле "Наняссенне менш цяжкіх пашкоджанняў".

Старшы следчы Валожынскага РАСК **Дар'я Мікуліч** патлумачыла, што госцю пагражае да трох год зняволення.

## Вызваліўся з турмы і адразу пачаў красці

ВАЛОЖЫН

43-гадовы жыхар вёскі Лоск 30 чэрвеня вызваліўся з месца пазбаўлення свабоды.

– Пераначаваўшы ў доме, раніцай вырашыў, што трэба неяк пачынаць новае жыццё, – распавядае старшы следчы Валожынскага РАСК Дар'я Мікуліч.

У суседняй вёсцы мужчына з дому скраў прадукты і прыстаўку. Дома аказалася, што няма тэлевізара, тады 1 ліпеня з дома ў суседняй вёсцы вынес і тэлевізар.

Праз некаторы час мужчына знайшоў у сябе дыскі з непрагледжанымі фільмамі, таму скраў і двд-прайгравальнік.

Міліцыянеры, якім паступіла паведамленне аб крадзяжах, завіталі ў дом жыхара Лоска і знайшлі скрадзеныя рэчы. Цяпер па другой частцы артыкула "Крадзеж" мужчыну пагражае да чатырох год зняволення.

Следчы звяртае ўвагу, што злачынца краў рэчы праз вокны. Таму ўласнікам лецішчаў варта звяртаць асаблівую ўвагу на тое, як захоўваць сваю маёмасць.

**Аддзел інфармацыі.**

## Страты і няўлічаныя выдаткі вады з камунальнага водаправода




# Камітэт дзяржкантролю знайшоў парушэнні ў працы водаканала

ВІЛЕЙКА

**Маладзечанскі міжрайкамітэт дзяржкантролю праверыў вілейскі водаканал.**

Правяраючыя высветлілі, што дзякуючы зніжэнню выдаткаў на прадпрыемстве тут зэканомілі амаль 312 тысяч рублёў за 2016 год і каля 20 тысяч за студзень-сакавік 2017 года.

У той жа час сабекошт кубічнага метра вады не змяніўся.

У час праверкі высветлілі, што на прадпрыемстве не забяспечылі рацыянальнае выкарыстанне матэрыяльных рэсурсаў.

Фактычныя страты і няўлічаныя выдаткі вады з камунальнага водаправода Вілейкі ў 2015 годзе склалі 570 тысяч кубічных метраў, у 2016 – 404 тысячы кубічных метраў, сёлета за студзень-сакавік – 92 тысячы.

Да гэтага часу прадпрыемства не выканала раённыя і абласныя заданы аб перадачы аб'ектаў водазабеспячэння і водаадвядзення ў шасці аграгарадках Вілейшчыны. Хоць павінны былі зрабіць гэта да жніўня 2010 года.

Кіраўніцтву водаканала даручылі распрацаваць план па развіцці сістэмы забеспячэння пітной вадой, знізіць сабекошт паслуг, больш эфектыўна выкарыстоўваць дзяржмаёмасць.

**Аддзел інфармацыі.**

## У трох вёсках Вілейшчыны ходзіць пагалоска, што побач з вёскамі і каля фермаў бродзяць ваўкі

### Спецыяліст упэўнівае – сітуацыя пад кантролем

ВІЛЕЙКА

Жыхары вёсак Мільча, Забродзе і Даўгінава на Вілейшчыне апошнім часам з асцярогай ходзяць у лес па ягады і грыбы. Прайшла пагалоска пра тое, што каля гэтых вёсак ёсць ваўкі, якія не баяцца падыходзіць да чалавечага жытла.

Бачыў іх мясцовы паляўнічы непадалёк ад Мільчы, аднак хутка драпежнікі сышлі. Расказвалі пра ваўкоў і жыхары Даўгінава, забрадчане не бачылі, аднак ціха пабойваюцца і перадаюць чуткі адзін аднаму.

Мільчане расказваюць, што зімой ваўкоў было пяць. Іх часта бачылі каля вёскі, непадалёк ад фермы. Аднак паляўнічыя застрэлілі драпежнікаў. Пасля гэтага ўсё супакоілася. А нядаўна заўважылі яшчэ чатырох.

Людзі адзначаюць, што шкоды яны пакуль не нарабілі, аднак тое, што дзікія жывёлы не баяцца падыходзіць блізка да людзей, становіцца небяспечным.

Яшчэ жывая ў памяці вяскоўцаў гісторыя, якая адбылася ў лютым ў Кобрынскім раёне. Тады ваўкі трымалі ў страху жыхароў прыгранічнай вёскі Павіцце. Яны загрызлі некалькі сабак, а мясцовыя жыхары баяліся цемнатой выходзіць на вуліцу. Як адзначалі мясцовыя, нават мужчыны, якія выпівалі, перасталі з-за страху.

Прычынай таго, што драпежнікі падыходзяць блізка да вёскі, мільчане бачаць у тым, што жывёлам не хапае ежы ў лесе, а таму шукаюць яе побач з людзьмі.

### Не даём драпежнікам сваволіць

Сітуацыю патлумачыў начальнік аддзела паляўнічай гаспадаркі дзяржаўнай прыродаахоўнай установы "Нацыянальны парк "Нарачанскі" **Аляксандр Ярашэвіч**. За гэтай установай замацаваныя лясы вышэйпералічаных вёсак.

– Да гэтага часу нам не паступала сігналаў ад мясцовых жыхароў, што ваўкі падыходзяць блізка да населеных пунктаў, – адзначыў спецыяліст. – Аднак, калі такое здарэецца, людзі могуць тэлефанаваць у аддзел паляўнічай гаспадаркі па нумары **(801797) 4-51-05** альбо асабіста мне на мабільны **(8029) 1023283**. Будуць накіраваныя спецыялісты, якія зробяць усё магчымае, каб гарантаваць людзям спакой.

Аляксандр Сяргеевіч расказаў, што і летась, і сёлета прымаліся ўсе неабходныя меры, каб не даваць драпежнікам сваволіць.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

## Школьнік з Вілейкі скраў рэчы ў сваёй маці і прадаў, каб адпачыць у сталіцы

ВІЛЕЙКА

Застаўшыся на два дні адзін дома, 13 ліпеня 16-гадовы віляйчанін вынес з дома і прадаў танометр, тэрмас і тэлевізар.

Хлопец вучыцца ў адной са школ Вілейкі, жыве ў мікрараёне Зеніт, стаіць на ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх.

Маці хлопца, якая працуе па графіку двое сутак праз двое, паехала на працу. За гэты час, па словах падлетка, ён вырашыў нармальна адпачыць у Мінску. Таму ўзяў з дому тэлевізар "Віцязь", танометр і тэрмас і прадаў знаёмым. Атрымаў 120 рублёў.

З грашыма хлопец разам з сябрам паехаў у сталіцу. Тут ён патраціў грошы на макдональдс, піцэрыі і іншыя забавы.

Праз два дні, у адзін дзень з маці, хлопец вярнуўся дамоў. Жанчына заўважыла, што няма рэчаў. Сын прызнаўся, што гэта зрабіў ён. Аднак маці заявіла ў міліцыю.

– Гэта было ўжо не першы раз, і жанчына проста стамілася ад такіх паводзін сына, – кажа оперупаўнаважаны аддзялення крымінальнага вышуку **Антон Баравы.**

Па яго словах, і хлопец, і сябар, які ездзіў з ім адпачываць у сталіцу, ужо маюць умоўную судзімасць.

На факце міліцыя праводзіць праверку.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# У час экспедыцыі па Віліі эколагі даследавалі ваду ў рацэ

**ВІЛЕЙКА, СМАРГОНЬ, АСТРАВЕЦ**

**Самая чыстая вада ў Віліі – ад вытоку і да Вілейкі. А вось з чысцінёй вады ніжэй у горадзе ёсць праблемы.**

Да гэтых і іншых высноў прыйшлі супрацоўнікі Цэнтра экалагічных рашэнняў – няўрадавай, некамерцыйнай арганізацыі, створанай для папулярызацыі экалагічна дружалюбнага ладу жыцця.

Каманда эколагаў сёлета ўпершыню ўдзельнічалі ў экспедыцыі "Шляхам Тышкевіча".

Па словах эксперта па ўстойлівым кіраванні воднымі рэсурсамі **Наталлі Парэчынай**, падобная экспедыцыя не першая для эколагаў. Перыядычна яны самастойна выбіраюцца ў падарожжы па рэках Беларусі, каб даследаваць якасць вады.

Такая экспедыцыя была запланаваная на 2017 год і па Віліі. Таму эколагі вырашылі сумясціць свае даследаванні са штогадовай экспедыцыяй па рацэ.

Даследавалі Вілію на тэрыторыях Вілейскага, Смаргонскага і Астравецкага раёнаў. Паралельна часткова фінансавалі знаходжанне ў падарожжы групы вілейскіх школьнікаў.

З аддзелам адукацыі спорту і турызму вілейскага райвыканкама Цэнтр экалагічных рашэнняў супрацоўнічае ад 2013 года. У гарадской школе №3 працуе інфармацыйна-адукацыйны цэнтр. Тут можна шмат даведацца пра ваду, узяць палоскі для вызначэння наяўнасці нітратаў у вадзе.

### Чаму на Смаргоншчыне ў Віліі гіне рыба

Нязручнасці ў падарожжы? Так, яны былі, але не больш, чым ва ўсіх. Напрыклад, калі ішоў дождж, цяжка было распаліць вогнішча. Да таго ж у складзе экалагічнай групы былі турысты-байдарачнікі без доследу.

Для ўдзельнікаў экспедыцыі на шляху былі экскурсіі і канцэрты. Таму, па словах Наталлі, часам цяжка было і даследаванні правесці, і на канцэрт паспець, і не адстаць на шляху ад іншых байдарачнікаў.

А што ж з чысцінёй Віліі? За некалькі дзён эколагі зрабілі шмат важных назіранняў пра стан ракі і атрымалі каштоўную інфармацыю ад мясцовых жыхароў.

**У Смаргонскім раёне людзі расказалі, што, як толькі запусцілі ў Смаргоні прадпрыемства "Кранаспан", у Віліі пачала гінуць рыба.**

Па словах Наталлі, праблемы ад таго, што на "Кранаспане" няма ўласных ачышчальных збудаванняў. Усе рэчывы прадпрыемства скідае ў ачышчальныя збудаванні хлебазавода. А яны не прызначаныя да такіх адходаў. Таму воды Віліі на Смаргоншчыне ўтрымліваюць шмат нітратаў і амонію.

### А вада ў Віліі цвіце

У Астравецкім раёне, дзе ў Вілію ўпадаюць прытокі Страча і Ашмянка, эколагі заўважылі недахоп кіслароду. Гэта сведчыць пра забруджванне ракі.

Адной з праблем была эўтрафікацыя Вілейскага вадасховішча. У народзе яна называецца "цвіценнем вады".

Гэтую з'яву назіраюць звычайна ў другой палове лета: у вадзе вельмі вялікая колькасць сіне-зялёных водарасцяў.

Прычына – злучэнні азоту і фосфару, якія трапляюць у ваду з сельскагаспадарчых зямель. Здараецца, што насуперак закону аб ахове водных рэсурсаў пад ворыва ідзе ўзбярэжная зямля. А ўгнаенні з яе змываюцца адразу ў раку. Такіх прыкладаў за час экспедыцыі было некалькі, падзялілася Наталля.

Ад вялікай колькасці забруджвальнікаў змяншаецца колькасць кіслароду ў вадзе. Гэта вядзе да мору рыбы, з'яўлення мёртвых зон на рацэ.

Сучасныя ачышчальныя збудаванні варта зрабіць і ў Вілейцы, перакананыя эколагі. Цяпер шмат розных замежных экалагічных праграм падтрымкі і пры жаданні можна знайсці на гэта грошы, лічыць Наталля.




Наталля Парэчына (першая злева ў першым радзе) з эколагамі падчас экспедыцыі.

### Наталля Парэчына: мы толькі абазначылі наяўнасць праблем

Да Віліі ў эколагаў асаблівая ўвага. Бо гэта пакуль адна з самых чыстых буйных рэк у Беларусі. Да таго ж тры раёны Мінска п'юць ваду з Вілейска-Мінскай воднай сістэмы.

Ад зніжэння ўзроўню грунтавых вод, расказала Наталля Парэчына, у многіх рэк Беларусі змяняецца месцазнаходжанне вытокаў. Часта розніца паміж ранейшым і сучасным вытокам даходзіць да аднаго кіламетра. Не выключэнне і Вілія. Гістарычны выток яе знаходзіўся значна вышэй.

Усяго на экспедыцыю пайшло каля дзвюх тысяч еўра.

Гэта выдаткі на арэнду катамарана і байдарак, на дастаўку ўсяго гэтага з Мінска на Вілейшчыну, а пасля з Астраўца – у Мінск, а таксама на харчаванне і закупку неабходнага абсталявання.

Самі даследаванні не былі дарагія.

– Мы не акрэдытаваная лабараторыя, – кажа Наталля Парэчына. – Даследаванні правядзілі толькі тыя, якія можна было зрабіць ва ўмовах экспедыцыі.

Па словах эколагаў, дзякуючы такім простым метадам можна толькі абазначыць наяўнасць праблемы, а яе глыбіня – гэта ўжо работа для больш грунтоўных дадатковых даследаванняў. І для больш дарагіх.

## Лішкі якіх рэчываў знайшлі эколагі ў Віліі і да чаго гэта прыводзіць




**Матэрыяльную падтрымку беларускім эколагам аказала шведскае агенцтва міжнароднага развіцця SIDA. Была падтрымка і з боку кааліцыі "Чыстая Балтыка".**

Справа ў тым, што многія беларускія рэкі нясуць свае воды ў Балтыйскае мора.

І іх забруджванне з часам адаб'ецца на стане Балтыкі.

Таму замежныя партнёры і зацікаўленыя ў чысціні беларускіх рэк.

Падчас экспедыцыі вывучалі не толькі якасць вады, але і стан раслін на берагах Віліі. Сярод удзельнікаў быў навуковы супрацоўнік Інстытута эксперыментальнай батанікі Акадэміі навук Беларусі **Аркадзь Скуратовіч**. У час стаянак навуковец сабраў гербарый узбярэжных раслін.

Усе дадзеныя, якія атрымалі эколагі ў час назіранняў, перадалі ў мясцовыя райвыканкамы.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99




# Куплю
# Прадам
# Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-21063 (Лада), 1986 г.в., прабег 46 тыс. Т. (8-029) 9505098.*

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Скутар Хорс-056, 2013 года. Т. (8-0176) 733643.

• Фольксваген-Джэта, 1984 г.в., у добрым стане, на хаду. Т. (8-033) 3302541.*

• **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *

• Запчасткі да БМВ 525, 1997 г.в. Т. (8-044) 7387127.*

• Запчасткі да Мазды 626, 2,0Д, 1994 г.в. Т. (8-044) 7387127.*

• Запчасткі да Форда-Эскорт, 1994 г.в. Т. (8-029) 7792477.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Т.(8-029) 5677052.*



**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |

### ПАСЛУГІ

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэкапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*

• Паслугі міні-экскаватара. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

• Паслугі экскаватара ЮМЗ. Усе віды земляных работ. Самазвал 10 т. ІП Крэнць С.М. УНП 692015814. Т. (8-044) 5543967, (8-029) 8762233.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-павярховы дом у Вілейцы па вул. Юбілейнай. Тэрмінова! Т. 98-029) 7039162.

• 2-пакаёвая кватэра на 3 паверсе ў Вілейцы, раён Зеніт. Т. (8-033) 3209337.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, р-н з-да "Зеніт", 3 паверх 5-павярховага дома. Свежы рамонт. Т. (8-029) 1331698, 98-029) 5559694.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 5081223.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Смаргоні. Т. (8-029) 3443740*.

• 3-пакаёвая кватэра на другім паверсе ў Маладзечне па вул. Віленскай, 64,4/39,7 кв.м. Т. (8-029) 1972673, (8-029) 9979026.*

• 3-пакаёвая кватэра ў 6-м мікраёне г. Маладзечна, 3 паверх 5-павярховага дома, 66,8/41,8/9,2. Гатовая для пражывання. Т. (8-029) 6571293.*

• 3-пакаёвая кватэра ў а.г. Любань Вілейскага р-на. Т. (8-033) 6362026.*

• Гараж ГБК-2, 6Ч4,2 м, 3800 BYN. Т. (8-029) 2375721.

• Гараж у ГК-5Р у Маладзечне, патынкаваны, пафарбаваны, аглядная яма, падвал, 1650 рублёў, торг. Т. (8-029) 1419072.*

• Дача ў в. Клыні, 11000 BYN. Т. (8-029) 2375721.

• Дача ў Татаршчызне ў с/т "Пісарэўская бярозка". Участак 5 сотак, дом 31,7 м$^2$. Святло, сезонная вада, прывазны газ – балон, печ. 11000 рублёў, разумны торг. Т. (8-029) 1998923 (Дзмітры).*

• Дом драўлянны з гаспадарчымі пабудовамі (лазня, пакой для адпачынку) у маляўнічым месцы – Сольскі накірунак са Смаргоні. 90 000 рублёў. Т. (8-044) 4885293.

• Дом драўляны ў добрым стане, нарачанскі напрамак, 8 км ад Вілейкі, 16 сотак, калодзеж, склеп. Т. (8-044) 7587148.*

• Дом жылы ў Маладзечне, цэнтр, газ, вадаправод. Т. Вэлком (8-029) 6691789.*

• Дом ў а/г Солы Смаргонскага раёна. Т. (8-029) 3594352, (8-029) 1863308.

• Дом у в. Астраўляны Мядзельскага раёна з гаспадарчымі пабудовамі, у паўтара кіламетрах ад Вішнеўскага возера. Т. (8-029) 9579917, (8-033) 3444338.*

• Дом у в. Куранец. Т. (8-029) 7603076.*

• Дом у в. Порса з выгодамі. Т. (8-033) 3011041.*

• Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

• Дом у в.Порса, участак 30 сотак. Т. (8-029) 1214671.*

• Дом у Вілейскім р-не, Касцяневіцкі с/с, в. Навасёлкі, ёсць 2 газавыя балоны. Т. (8-0176) 778635.*

• Дом у Вілейцы, Макаўе, з усімі выгодамі. Т. (8-033) 3209338.*

• Дом цагляны з усімі камунікацыямі ў Мядзеле, вул. Вяршылы, у 500 метрах ад возера. Т. (8-029) 2760904.*

• Дом цагляны ў в. Куранец Вілейскага раёна, больш за 100 м2, зямельны ўчастак – 40 га, 9000 рублёў. Т. МТС (8-029) 5609398, 98029) 5609402.*

• Зямельны ўчастак 0,25 га ў п.Свір. Возера ў 50 м, праз дарогу. На ўчастку электрычнасць, фундамент, магчымасць падключэння да газу. Гатовы праект. Без пасрэднікаў. Т. (8-044) 7571949.*

### КУПЛЮ

• Дом каля Маладзечна. Т. (8-044) 5564434, Юля.

### ЗДАМ

• Пакой у цэнтры Маладзечна. Т. (8-029) 5019550.*



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

• **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*




• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзіванович А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

• Грузаперавозкі. Бус 1,5 тн. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

• Грузаперавозкі. Фура-борт, 20 тон. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

• Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*

• Аграсядзіба, **ЛАЗНЯ.** vslobode.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*

• **АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ.** ІП Бяліцкі А.В. УНП 690688577. Т. (8-029) 7085907, (8-029) 1232842.*

• Арганізацыя акажа паслугі па добраўпарадкаванні тэрыторыі (тратуарная плітка, газоны, агароджы любой складанасці). Дапаможам укамплектаваць аб'ект. Цэны прымальныя. ААТ "ГрадІнжынірынг" УНП 691882789. Т. (8-029) 6303902.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Суббот П.І. УНП 692010733. Т.(8-029) 7737451, (8-029) 1285233.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Нізкія цэны. ІП Маціп А.М. УНП 691410712 Т. (8-029) 9447224, (8-033) 6911759.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Хутка. Надорага. Акцыі. Скідкі. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450 Т. МТС (8-029) 7860317, Вэлком (8-029) 1287878.*

Прадам **ДАЧУ** паблізу Вілейкі, Плікавічы. Участак 10 сотак. 4 км да вадасховішча.



Т. (8-029) **651 20 36**.

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Добраўпарадкаванне пахаванняў, устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 3469417.*

• Кладка, дах, фундамент, аддзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт металічных дзвярэй. Змена знешняга віду. Рамонт, замена замкоў і фурнітуры. Уцяпленне. ІП Новікаў А.А. УНП 691899716 Т. (8-029) 6548129.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Тратуарная плітка, борт і іншае. Укладка. Дастаўка. ІП Юрэвіч У.У. УНП 691505215. Т. (8-044) 7168663, (8-029) 8761382.*

• Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• **БЛОКІ Г/С (ВЫТВОРЧАСЦІ СМАРГОНІ, ЗАБУДОВЫ), ЦЭГЛА. ДАСТАЎКА**. Прыватнае прадпрыемства "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*

• **ВАГОНКА** (сасна, вольха), **ДОШКА ПАДЛОГІ**, **ЭЛЕМЕНТЫ ЛЕСВІЦ** і інш. у Маладзечне, вул. Гарадоцкая, 102. ПП "Маркціна Білд" УНП 690627804. Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

• Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Бульбасаджалка. Т. (8-029) 8462052.

• Трактар МТЗ-50 у выдатным стане, з дакументамі. Поўны капрамонт у 2016 годзе. Т. (8-029) 6342851.*

• Трактар МТЗ-82 у добрым тэхнічным стане, да яго ёсць бульбасаджалка, збівалка, акучнік, плуг, культыватар, запасны рухавік пасля капітальнага рамонту, шмат новага. Торг. Т. (8-029) 9579917.*

• Трактар Т-40, навяснное, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*

• Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

• Трактар Т-25, з агрэгатамі. Т. (8-033) 6849313.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

**АНТЕННЫ СПУТНИКОВЫЕ**
-5% в июне (8029) 762-78-98, 332-67-79
ИП Емельянов А.В. УНП 600361413

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• Абслугоўванне, наладжванне, рамонт спадарожнікавых антэн. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцэраль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Мэбля**

• Кухня вуглавая б/у, шафакупэ, чорная. Т. (8-029) 5653055.

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабылка абучаная ў Маладзечанскім раёне. Т. 98-0176) 70-0877, Вэлком (8-044) 4673240.*

• Свіней жывымі і мясам. Т. 98-01771) 20024, (8-029) 8766740.

• Цялушка пакрытая. Т. (8-029) 9095089.*

**Іншае**

• Абсталяванне для рэгуліроўкі і рамонту паліўнай апаратуры (дызельнай). Т. (8-033) 3549222.*

• Бараніна жывой вагой – 4,5 руб, мясам – 8,5 руб. Т. (8-029) 6769359 Віталь.

• Вуллі новыя, танна. Т. (8-029) 9950326, (80176) 532543.*

• Інвалідная каляска ў выдатным стане. Т. МТС (8-033) 6000181.*

• Ровар Roiser, б/у, 15 дзён, 6 хуткасцяў, колы 26 цаляў. Т. (8-029) 9127234.

• Шыны Ханкок 225/75/17. Т. (8-029) 7056221.

### КУПЛЮ

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• Мост вядучы і інш. запчасткі да МТЗ-82. Т. (8-029) 8775982.*

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Антыкварыят**

• Антыкварыят, статуэткі, гадзіннікі, грамафоны, карціны, мэблю і іншыя старажытныя рэчы. Т. МТС (8-033) 9030854, Вэлком (8-029) 1447482.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Батарэі чыгунныя. Т. (8-029) 8789740.*

• Каталізатар б/у. Т. (8-029) 2664373.*

• Кнігу "Памяць" розных рэгіёнаў. Т. (8-029) 5019550.*

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Рогі лася, аленя. Т. (8-029) 8552646.*

### ЗГУБЛЕНА

• Аўтамабільны нумар 7955ii-1. Тым, хто знайшоў, гарантаванае ўзнагароджанне. Т. (8-029) 7985026, (8-044) 5585323.

• Дзяржаўны аўтамабільны нумар АО 5126-5 прашу вярнуць за ўзнагароджанне. Т. (8-029) 5680365.*

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Дапамагу папілаваць дровы. Т. (8-029) 9756978.*

• Малярныя, аддзелачныя работы, тынкоўка, работы па гіпсакардоне, укладка пліткі. Т. (8-029) 8727844.*

• Шукаю падпрацоўку, досвед: усе віды фасадных, будаўнічых, аддзелачных работ. Т. (8-029) 1881377, (8-029) 5526667.*

### ПАТРАБУЮЦЦА

• Галоўны бухгалтар, машыніст экскаватара, машыніст бульдозера, трактарыст, кіроўца аўтамабіля (грузавога) у арганізацыю ў Вілейцы. ААТ "ПМК-88" УНП 600010728. Даведка па тэлефону (801771) 21544, 22757 (бухгалтэрыя).

Организации требуется
**машинист трелёвочной машины**
(оператор форвардера)
*без вредных привычек*
*Зарплата сдельная*
(8044) **555-11-32**
ОДО «ВудЛесТранс» УНП 690586326

Организации **требуются строители** следующих специальностей:
• **плиточник-облицовщик**
• **маляр-штукатур**
• **кровельщики**
*Жильё предоставляется*
Телефон (8033) **157-88-86**
ООО "Альбивита" УНП 192006488

На постоянную работу требуется
**МАШИНИСТ** экскаватора
**МАШИНИСТ** экскаватора-погрузчика
*Оплата труда достойная.*
Тел. (8-029) **153-48-73**
ЧУП МОЛ АГРОКОРМ" УНП 690305763

**ОКНА ПВХ ДВЕРИ**
- балконные рамы
- отделка откосов
- москитные сетки
**НИЗКИЕ ЦЕНЫ! ОТЛИЧНОЕ КАЧЕСТВО! ГАРАНТИЯ 2 ГОДА!**
Vel. (8-029) 384-41-92
MTS (8-033) 374-41-30
ИП Бураковский УНП 691518946

**ИЗДЕЛИЯ ИЗ МЕТАЛЛА:**
✓ Навесы ✓ Мангалы
✓ Заборы ✓ Скамейки
✓ Калитки ✓ Ограды
Велком (8-029) **384 41 92**
МТС (8-033) **374 41 30**
ИП Харчишин В.А. УНП 692014596

**Снос ветхих строений**
**Расчистка участка**
(8029) **330-19-64** (Вел)
(8029) **817-79-83** (МТС)
ИП Мамай Ю.А. УНП 691895935

**Спутниковое и цифровое ТВ**
**Все виды услуг**
Тел. (8029) **561 39 72**
ИП Новик С.С. УНП 691398368

**Ремонт и продажа бензоинструмента**
Официальный дилер торговых марок Stihl и VIKING
Тел./факс **(8-0176) 50-05-15**
**http://iti.kraj.by**
*Молодечно, ул. Либаво-Роменская, 2-д*
ОДО "ИТИ" УНП 690687887

**ОКНА, ДВЕРИ**
**балконные рамы**
ИЗ ПЛАСТИКА И АЛЮМИНИЯ
• **Жалюзи**
• **Москитные сетки**
• **Отделка откосов**
Изготовление
Установка
Договор
Гарантия
**Вилейка** (8-029) **615-69-95**
(8-033) **320-51-80**
ИП Чижевский А.И. УНП 690572888

**БУРЕНИЕ скважин на воду**
Качество/Договор/Гарантия
Тел. (8-029) **133 65 74**, **844 65 74**
ИП Гуринович А.В. УНП 691501462

• **ТРУБЫ**
• **уголки**
• **швеллеры**
• **арматура**
• **листы**
• **сетка рабица**
ИЗГОТОВЛЕНИЕ МЕТАЛЛОКОНСТРУКЦИЙ. РЕЗКА. Доставка
***Аренда автокрана***
**г. Молодечно, ул. Рабочая, 8а**
**(0176) 75-19-82**
**58-04-76 (факс)**
**(029) 196-90-23 (-43) (-53)**
www.metallkontrakt.by/
ООО «Молметаллконтракт» УНП 691398156

■ **ПЕЧИ ДЛЯ БАНИ**
■ **БАКИ**
■ **ЕМКОСТИ** — **для воды**
*ИЗ НЕРЖАВЕЮЩЕЙ СТАЛИ*
**www.svarimvse.by**
Тел. **8-044-743-59-27**
ИП Нестерович УНП 691171264

КУПЛЮ
**коня, КРС и др.**
а также вынужденный убой. Заберу личным транспортом.
Тел. (8-044) **777-44-48**
(8-029) **393-92-56**
ИП Жамойтин Д.В. УНП 590191739

**Двери**
**Межкомнатные**
**Входные**
**Установка**
+375 44 533 25 22
+375 33 603 25 22
+375 25 544 33 83
ИП Медведков В.Е. УНП 691548727
**Скидка 11%**
**Фурнитура в подарок**
• **Низкие цены**
• **Быстрые сроки**
• **Расчет стоимости**
• **Онлайн и по Тел.**
**DvernoiRai.by**

**БЕТОН РАСТВОР**
**Щебень, гравий, песок**
**ПГС** (доставка)
**Услуги фронтального погрузчика**
(погрузка, планировка, котлованы)
Тел. **8-044-749-00-56**,
**8-029-749-00-65.**
probeton.by
ООО "Алисан-Групп" УНП 690551451

**Установка Переустановка ПАМЯТНИКОВ и оградок**
• **Укладка плитки**
• **Заливка стяжек**
**Благоустройство мест захоронений**
**МТС +375 (29) 230-76-69**
ЧП "Гармония тепла" УНП 191561778

**СТО «500 Ампер»** ТРЕБУЕТСЯ
**слесарь-ремонтник**
в п. Илья на постоянной основе.
Зарплата высокая.
Тел. (8-044) **761-39-03**
ЧТПУП «500 Ампер» УНП 691168121

***Металлические ДВЕРИ***
■ **Производство РБ**
■ **Готовые и под заказ**
■ **Улица, квартира**
ИП Лясковский Д.О. УНП 691555400
**www.vasharamka.by**
**(8029) 558-46-59**
**(8029) 647-53-20**
**Рассрочка от 2 до 6 месяцев 0%**

СПЕЦИАЛИЗИРОВАННАЯ ПРОДАЖА И РЕМОНТ
ГАРАНТИЯ ДО 3-х ЛЕТ
**ШВЕЙНЫЕ МАШИНЫ, ОВЕРЛОКИ,**
**ПАРОГЕНЕРАТОРЫ, КОМПЛЕКТУЮЩИЕ, ЗАПЧАСТИ, ИГЛЫ, НИТКИ, НОЖНИЦЫ**
ИП Битель И.И. УНП 600320450
**МОЛОДЕЧНО, Ф.СКОРИНЫ, 10А**
**(8-0176) 50-12-82, (8-029) 378-73-77**

**ПАМЯТНИКИ**
от 260 руб за комплект,
**ОГРАДЫ, БЛАГОУСТРОЙСТВО**
мест захоронения
Собственное производство
(8029) **631-09-36**, **856-77-96**
ИП Сокол С.П. УНП 692015722

Филиалу «**Автомобильный парк №14**» УНП 601070356
**г. Воложина** Минской области требуются на работу:
☑ **ЗАМЕСТИТЕЛЬ главного бухгалтера;**
☑ **ВОДИТЕЛИ автомобилей категории** «С», «Д», «Е»
*Оплату труда согласно штатного расписания*
Справки по телефону (801772) **5-45-46**, (801772) **5-55-69**

# Два спагнанні за адну правіннасць:

## у адной з гаспадарак Смаргоншчыны парушылі працоўнае заканадаўства

СМАРГОНЬ

**Парушэнні ў загадзе аб дысцыплінарным спагнанні работніка ў адной з гаспадарак Смаргоншчыны знайшлі супрацоўнікі раённай пракуратуры.**



Фота sb-advice.com.

Не заўсёды наймальнік законна прымяняе дысцыплінарнае спагнанне.

Загадам дырэктара сельскагаспадарчага прадпрыемства сёлета ў сакавіку работніка Б. прыцягнулі да дысцыплінарнай адказнасці.

Яго пакаралі строгай вымовай і гэтым жа загадам звольнілі з працы за неналежнае стаўленне да службовых абавязкаў і сістэматычнае невыкананне распараджэнняў кіраўніцтва.

У ходзе праверкі супрацоўнікі пракуратуры кіраваліся Працоўным кодэксам Рэспублікі Беларусь.

Згодна з ім, дысцыплінарнай адказнасці прымяняюць за супрацпраўнае, неналежнае выкананне работнікам уласных працоўных абавязкаў.

Якім будзе дысцыплінарнае спагнанне, наймальнік абірае сам. Гэта можа быць заўвага, вымова, звальненне.

Для асобных катэгорый работнікаў ёсць іншыя меры спагнання. Іх усталёўвае ўрад Рэспублікі Беларусь.

Сюды адносіцца пазбаўленне прэмій, змяненне часу працоўнага адпачынку і іншыя меры.

Віды і парадак прымянення гэтых мер рэгулююць унутраныя дакументы на прадпрыемстве. Меру спагнання таксама абірае наймальнік.

У адпаведнасці з Працоўным кодэксам да прымянення дысцыплінарнага спагнання наймальнік абавязаны запатрабаваць пісьмовае тлумачэнне работніка. Аднак, калі работнік адмаўляецца пісаць "тлумачальную", гэта не перашкаджае спагнанню і афармляецца актам з указаннем прысутных пры гэтым сведак.

**За кожную дысцыплінарную правіннасць можна прымяніць толькі адно дысцыплінарнае спагнанне.**

Яго афармляюць загадам (распараджэннем), пастановай наймальніка.

Гэтыя дакументы аб'яўляюць у пяцідзённы тэрмін работніку пад подпіс. У іх указваюць прычыну спагнання. Калі за пяць дзён работніка не пазнаёмілі з загадам, лічыцца, што спагнання ён не мае.

Калі работнік сам адмаўляецца знаёміцца з дакументамі аб дысцыплінарным спагнанні, гэта афармляюць актам у прысутнасці сведак.

Прымяняюць дысцыплінарнае спагнанне не пазней за адзін месяц з дня правіннасці, не лічачы часу хваробы работніка, яго адпачынку.

У працоўным заканадаўстве пазначана, што дысцыплінарнае спагнанне можна абскардзіць.

Калі на працягу года ад дня прымянення дысцыплінарнага спагнання работнік не атрымае новага, спагнанне пагашаецца аўтаматычна без дакументаў.

Кіраўнік або орган, які аб'явіў спагнанне, можа зняць яго датэрмінова па ўласнай ініцыятыве, па хадайніцтве непасрэднага кіраўніка, прафсаюза, а таксама па просьбе работніка.

Загад аб дысцыплінарным спагнанні работніка смаргонскай гаспадаркі прызналі незаконным.

**Недапушчальна, што наймальнік ужыў два спагнанні за адну правіннасць.**

Акрамя гэтага наймальнік памыліўся ў фармулёўцы спагнання: напісаў "строгая вымова" замест "вымова".

Ёсць і яшчэ парушэнні. Не пазначаная канкрэтная дысцыплінарная правіннасць, дата яе здзяйснення, дата азнаямлення работніка з загадам.

Паколькі некалькі артыкулаў Працоўнага кодэкса наймальнік не выканаў, пракурор Смаргонскага раёна вынес пратэст на незаконны загад.

**Алена НАЙДЗІЧ,**
**старшы памочнік пракурора Смаргонскага раёна.**

# Чытач дзякуе аўтапарку за знойдзеныя акуляры

МАЛАДЗЕЧНА

**Што свет не без добрых людзей я пераканаўся не так даўно.**

У пятніцу, 7 ліпеня, у другой палове дня ехаў я аўтобусам №10. Пры патрэбе карыстаўся акулярамі, а потым іх клаў у кішэню курткі. Аўтобус давёз мяне да майго прыпынку, і ўжо хутка я быў дома.

Пад вечар, каб паглядзець перадачу па тэлевізары, спатрэбіліся акуляры. А дзе ж тыя акуляры, шукаў-шукаў і не знайшоў. Прыйшоў да думкі, што, пэўна, згубіў іх, як ехаў дадому.

Назаўтра ў аўтобусе папытаўся ў адной з кандуктарак, ці можна як знайсці згубленую рэч, і яна дала мне нумар тэлефона дыспетчара.

Я вырашыў сам пад'ехаць у аўтапарк. Мяне адразу прапусцілі ў дыспетчарскую. Салідная прыгожая жанчына выслухала мяне, удакладніла, калі гэта было, і патэлефанавала тым, хто напярэдадні працаваў на дзясятым маршруце ў першую змену. Па першым званку адказалі, што не ведаем, другі званок таксама не прынёс станоўчых вынікаў.

Я ўжо дзякую за клопат, але дыспетчар просіць пачакаць і робіць трэці званок. Кіроўца адказвае, што так-так, учора кандуктарка перадала мне ў кабіну акуляры, кімсьці забытыя.

Пані дыспетчар з радасцю гаворыць мне, каб я знайшоў на 11-м маршруце кіроўцу Валодзю, ён і аддасць мне згубленыя акуляры.

Я, падзякаваўшы, адразу паспяшаўся і паехаў да прыпынку "Елгава". У 12:05 зайшоў у аўтобус і спытаў Валодзю. Той з радасцю аддаў мне маю згубу.

Я вельмі ўдзячны работнікам аўтакалоны, яны на сваім месцы і вельмі карэктна робяць сваю справу. Вялікі ім дзякуй.

**Аляксандр САЛАГУБ,**
**жыхар Маладзечна.**

# 35 год п'янак прамільгнулі паўз мяне, а ў цвярозасці я па-сапраўднаму жыву

МАЛАДЗЕЧНА

**Мужчына ў беласнежным касцюме з белымі валасамі, з медалём за спартыўныя дасягненні устае, калі са сцэны запрашаюць падняцца тых, хто не п'е больш за 26 год.**

Чвэрць стагоддзя аддзяляе яго ад апошняй кроплі спіртнога, але ён не робіць перапынку ў наведванні суполкі ананімных алкаголікаў. Таму што толькі дзякуючы АА ён выцягнуў сябе з самага дна.

У суботу, 15 ліпеня, у Маладзечне адзначалі 11-годдзе працы суполкі "Залатая жыла", у якой ужо дзясяткі людзей з залежнасцю знайшлі дапамогу і сілы трымацца цвярозасці.

У госці да віноўнікаў свята прыехалі прадстаўнікі з груп падтрымкі з Лагойска, Мінска, Брэста, Вільні, Астраўца, Вілейкі, Смаргоні, Дзяржынска і Валожына.

З вітальным словам выступіў загадчык Маладзечанскага псіханеўралагічнага дыспансера **Аляксандр Бажко**:

– Калі я расказваю, што можна жыць без алкаголю, многія гэтага не разумеюць. Вы пацвярджэнне таго, што жыць можна па-рознаму, і ў тым ліку без алкаголю.

Прадстаўнік касцёла, у якім збіраюцца ўдзельнікі групы, айцец **Анатоль** адзначыў, што яго папярэднік айцец **Тадэвуш** даў маладзечанскаму АА памяшканне і вельмі клапаціўся, каб суполка дапамагала тым, хто апынуўся ў няпростай сітуацыі.

Адзін з традыцыйных момантаў форуму – лічылачка. Вядучы называе перыяд, а той, хто увесь гэты час быў цвярозы, устае, зала апладзіруе яму ў знак падтрымкі. Самы доўгі перыяд цвярозасці – больш за 26 год. Былі тыя, хто цвярозыя 25, 20, 16, 10, некалькі год ці менш за 12 месяцаў. Удзельнік форуму з найменшым тэрмінам цвярозасці прыйшоў з адзнакай у тры дні цвярозасці.

Сваім шляхам да цвярозасці падзяліліся госці форуму. Усе іх гісторыі ананімныя, мы расказваем іх з дазволу выступоўцаў. Каб вы, паважаныя чытачы, калі ёсць патрэба ў дапамозе ў барацьбе з алкаголем, убачылі, што не адны і смела паспрабавалі змагацца з залежнасцю.

### Наташа

– Год таму мяне прывезлі на форум у Маладзечна пасля тыднёвага запою. Пасля гэтага я год не п'ю.

### В. з Валожына

– Помню, як я трапіў на першы сход АА у Мінску. Да гэтага мне і з тымі, хто піў, было кепска, таму што гэта падман і кідалава, няма грошай – ты нікому не трэба. Сярод цвярозых мне таксама было некамфортна, яны мае ўчынкі не разумелі. Вечарам упэўніваю, што заўтра выкапаю яму, а нараніцу не магу адарваць галаву ад падушкі. Але ж вечарам я шчыра веруў, што ўсё зраблю!

Абяцаў, што ад панядзелка ўсё гэта скончыцца, а ў аўторак распластаны валяюся на падлозе. А на тым сходзе пачуў, што нехта нават круцей за мяне піў, такія бухары, што, па армейскіх мерках, палкоўнікі, а я хіба лейтэнантам быў. І мне стала так лёгка!

Пасля ў рэабілітацыйным цэнтры ўмудрыўся папрацаваць у якасці экспаната кончанага алкаша і трохгадовага цвярэзніка, гэта называлася кансультант. Жыццё мянялася, калі мяняўся я, а мяняўся я, калі хадзіў у групу. Здараецца, нехта праходзіць 12 крокаў праграмы, і падаецца, што нічога не атрымліваецца. Вы не заўважаеце, як мяняецеся.

Знаёмыя год не разумелі, п'яны я ці цвярозы, што са мной. Даўгі, праўда, павыбівалі праз месяц. А я пытаюся: "Колькі я яшчэ вінны?" Глядзяць і не нарадуюцца. Год прайшоў, і пачалі прасіць пагаварыць са сваімі блізкімі, якія п'юць. Толькі праз год людзі пачалі да мяне больш-менш ставіцца, яны баяліся выбуху. Бывае кепскі перыяд у жыцці, але гэты перыяд мінае. Калі я стаю сёння цвярозы, то ёсць надзея, што заўтра нешта будзе лепш.

### В. з Вілейкі

– Восем месяцаў я вытрымала без ужывання, пасля вырашыла, што ўжо белая і пушыстая, і пачала бухаць. Беручы чарку, я разумела, што ў мяне будзе запой. А побач сядзела маё дзіця і прасіла: "Мама, не трэба". Але жаданне як хутчэй па-нармальнаму "нажрацца" перамагло. Разумела, што пачнецца звычайны запой, з сябрамі-сяброўкамі.

Я прайшла ўсе секты, усе кадзіроўкі-іголкаўколванні, усяго хапала на пару дзён, месяц. А пасля АА я жыву другім, такім класным жыццём. Без падтрымкі тых, хто не ўжывае, я, напэўна, сядзела б з вялікім тэрмінам у турме, як мой сужыцін. Я засталася цвярозая на свабодзе са сваім дзіцем. Дзякуй вам.



Змяніць жыццё не проста, але калі побач той, хто ўжо прайшоў гэты шлях, усё становіцца прасцей.

### Сяргей

– Калі я прыйшоў, мне сказалі: сцісні зубы і пратрымайся год. Не ведаю, што адбываецца, але прайшоў і год, і два, а я цвярозы.

### Сяргей

– Я абараняў свой алкагалізм, бо без яго я нічога не мог. Іду куды-небудзь – трэба падчахліцца сотачкай, пасля ўсё нарастала. Калі я цверазеў, то для кагосьці. Для жонкі, напрыклад. Зноў п'ю – жонка кінула, я яшчэ больш злуюся і яшчэ больш п'ю. Параілі схадзіць у АА, страх быў нават дзверы гэтыя адчыніць. А што скажуць пацаны? Ды і нашто мне? У мяне ж жонка сука, начальнік казёл, вось і п'ю.

Я прыйшоў, ацэньваю, хто там сядзіць, разважаючы, колькі з кім мог бы папіць. Сядзіць нехта – куды яму да мяне, ты праз два дні звалішся. Гэта цяпер пра АА крыху пішуць, а раней хто пра нас ведаў, я думаў, секта нейкая. Казаў, з палучкі да вас прыйду, а то сумная арганізацыя – ні выпіць, ні закусіць.

Маленькі гарадок, пасля некалькіх судоў на працу нікуды не бяруць, дзяцей забіраюць у прытулак па 18 дэкрэце... Я ўсё гэта праходзіў, гэта вельмі балюча. Цяпер працую у майстэрні, у нас сядзяць хлопцы, у якіх ёсць сур'ёзныя праблемы, але яны ўжо разумеюць, што алкагалізм – невылечная хранічная хвароба. У падарунак маладзечанцам – зробленыя рукамі алкашоў вырабы.

### Ларыса

– Доўга не адважвалася пайсці на сход, горад маленькі, а раптам раскажуць. Напэўна, дасягнула свайго дна, і толькі пасля ўсё ж пайшла. Нейкі час пратрымалася, пасля зноў бяда. Ну а сёння – тры месяцы маёй цвярозасці.

### Гена, 26 год і 10 дзён цвярозасці

– Я атрымаў цвярозасць бясплатна. У мяне не заўсёды было жыццё кончанага алкаголіка. Я адслужыў у арміі, займаўся спортам, ажаніўся. Аднак я згубіў усё, упаў ніжэй за плінтус. Быў дырэктарам сталовых і рэстаранаў, пасля перавялі ў загадчыкі, повары, грузчыкі. Сям'я мяне кінула, я быў непатрэбны нікому.

Мне казалі, што я алкаголік, але як я мог паверыць. У мяне грошы, людзі ў падначаленні, я ж не цаджу ў піўнушцы. Аднак застаўся без сям'і, пачаў жыць у бацькоў. Мне выдзелілі пакой, каб іх не турбаваў. Папарыўся ў лазні, неяк упэўніў, што ўжо завязаў, яны на тыдзень з'ехалі на Нарач.

Калі вярнуліся, уся кватэра была голая, я прапіў усё. Бацькі падалі на мяне ў міліцыю. Я стаў непатрэбны нават самым родным. Хаваўся ад іх.

Жыў так: у 4 раніцы пад'ём, у 6 ужо гатовы, у 8 пад'ём, і так круглыя суткі трэба было нешта піць. Краў, гаражы рабаваў, у жанчын адбіраў ланцужкі – акрамя забойства было ўсё, перапіў усё, што можна – шклоамывальнікі, клеі. Хіба я мог падумаць, што сухое віно і каньяк могуць давесці да такога? Звязаўся з "блат-хатамі" з крымінальнікамі. Я ненавідзеў усіх, і сябе ў першую чаргу. Праз некаторы час бацькі перадалі праз знаёмых, што даравалі мне, што чакаюць. А я займаўся шабашкамі, усё прапіваў.

27 чэрвеня 1991 года ўзяў пляшку гарэлкі, чамусьці больш ніхто не купляў, на наступны дзень нам прывезлі палучку. Бачу, што мне канец, купіў білет і паехаў у Мінск. Думаю, ну і каму я цяпер трэба. Гэта раней, калі быў дырэктарам, у мяне курачка, сухая кілбаса, бляшанка кавы, а цяпер то на чорта мне такое жыццё. Думаў, кінуся пад цягнік. А пасля бачу аб'яву на сцяне "Ананімныя алкаголікі" і адрас. Я пайшоў туды ў 8 раніцы, захацелася хоць адзін дзень пабыць цвярозым. А мне кажуць, што група толькі ў 6 вечара, аўторак і пятніца. Пабадзяўся па праспекце, вяртаюся. Там некалькі чалавек, яны прынялі мяне, размаўлялі, хаця ў мяне не было нічога. Там былі муж і жонка, яны ўзялі да сябе. Цяпер такіх людзей называюць спонсарамі.

### Паўлючык

– За 20 год штодзённага піцця ў мяне ні разу не было жадання кінуць піць. Толькі навучыцца піць без наступстваў. Я лічыў, што п'юць усе. Вельмі важны момант, калі ўзнікае жаданне змяніцца і кінуць піць. У студзені 1996 года я жэлепадобнымі мазгамі усвядоміў, што калі буду піць, нічога не зменіцца. Робячы тое самае, бязглузда спадзявацца на іншы вынік.

Як змяніцца, я не ведаў. Дзякую, што навучылі, як. Я змог гэта толькі дзякуючы 12 крокам. На маім першым сходзе мяне сустрэлі як роднага, і гэта была фантастыка. Для мяне самы вялікі падарунак за 21,5 года цвярозасці – гэта паўбатона. Тады, калі перавесці на сённяшнія меркі, у мяне было 10 рублёў на два тыдні. Купляў шматок сала, дзяліў на кавалачкі і еў з хлебам. Калі прыйшоў упершыню ў групу, то спытаўся, дзе побач магазін, ці не спазнюся хлеб купіць. А адна з жанчын дастае з пакета батон, дзеліць напалову і адну з іх працягвае мне.

### Сяргей

– Мой бацька быў алкаголікам, лавіў галюцынацыі. Я сябе забіваў: таксама галюцынацыі, набор хвароб, адымаліся ногі.

35 год п'янак прамільгнулі паўз мяне. А пяць год цвярозасці, калі я па-сапраўднаму жыву, мне прынеслі столькі радасці, што я паверыць не мог.

Зоя ХРУЦКАЯ.

**Даведка "РГ". Ананімныя алкаголікі (АА)** – супольнасць, якая аб'ядноўвае мужчын і жанчын, якія дзеляцца сваім досведам, сіламі і надзеямі, каб вырашыць агульную праблему і дапамагчы іншым пазбавіцца ад алкагалізму. 12 крокаў – гэта праграма духоўнага пераарыентавання для залежных алкаголікаў.

## Групы АА ў нашым рэгіёне

**Вілейка**
Вул. Маркава, 49, аддзяленне сацыяльнай адаптацыі і рэабілітацыі цэнтра сацабслугоўвання насельніцтва.
Аўторак, пятніца, 18:00.

**Валожын**
Вул. Партызанская, 15, прытулак.
Субота, 14:00.

**Маладзечна**
Вялікі Гасцінец, капліца св. Казіміра.
Аўторак, чацвер, пятніца, 19:00,
Нядзеля 13:30, апошняя нядзеля месяца адкрытая.
(8 033) 384 22 34 тэлефон даверу.

**Астравец**
Вул. Кастрычніцкая, 6 (касцёл)
Субота, 17:00.

**Смаргонь**
Вул. Балыша, 2, Моладзевы цэнтр, касцёл.
Серада, пятніца, 19:00.
Нядзеля, 16:30. Нядзеля, 18:30.
Вул. Сініцкага, 4. Памяшканне грамадскага пункта аховы парадку.
Аўторак, 19:00
Нядзеля, 17:00.

**Ашмяны**
Можна звязацца праз электронную пошту promyalda@mail.ru.



# ПРОСТЫЯ РЭЧЫ

"Рэгіянальная газета" працягвае праект "Простыя рэчы". Штомесяц мы будзем распавядаць аб прадметах, якія маглі б даўно стаць музейнымі экспанатамі. Але не сталі. Бо, як мы ўпэўніліся, і сёння ёсць людзі, якія карыстаюцца імі. Пра такія рэчы і іх гаспадароў мы раскажам у праекце. Можа, вы, шаноўныя чытачы, засцілаеце падлогу саматканымі бабулінымі палавікамі ці рэжаце траву для жывёлы ў сячкарні? А можа, нехта цішком тчэ на кроснах?

Тады тэлефануйце нам на нумар 8 (0176) 53-78-06, і мы раскажам вашу гісторыю. Галоўнае, каб гэта рэч не была музейным экспанатам, а і сёння служыла вам па прызначэнні.



Аўтар праекта Аксана ЯРАШОНАК.

# Грэла, лячыла, гадавала: Наталля Дуровіч распавядае пра рускую печ

ВІЛЕЙКА

**Яна абагравала, карміла, забірала стому. На ёй спалі і гулялі малыя дзеці, пад ёй у марозныя зімы жылі куры.**





Руская печ у летняй кухні Наталлі Дуровіч з Будзішча займае амаль палову памяшкання. Ля печы традыцыйна на круку вісіць вядро з калодзезнай вадой. Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Вы яшчэ не здагадаліся пра што я? Усё гэта пра рускую печ. Цяпер такія ёсць далёка не ў кожнай хаце. А ў **Наталлі Дуровіч**, ураджэнкі і жыхаркі вёскі Будзішча на Вілейшчыне, такіх печаў дзве. Адна ў хаце, другая – у летняй кухні, дзе Наталля мяне сустрэла.

### Сучасны посуд на старадаўняй паліцы

На кухні адразу заўважаеш змешванне стыляў у інтэр'еры. У куце – газавая пліта, а ў цэнтры на круку вядро вады са студні. На паліцы, якую рабіў яшчэ дзядуля Наталлі, прыгожы сучасны посуд.

Стол таксама своеасаблівы: сталешніца – набытая нядаўна, а тое, што пад ёй – ножкі і паліца для місак, – таксама зробленае дзядулем.

> – Руская печ у летняй кухні яшчэ не старая, – распавядае гаспадыня. – Яе склалі ў 1980-х гадах.

Па словах Наталлі, у той час такімі печамі ўжо мала хто карыстаўся. Аднак для сям'і Дуровічаў яна была патрэбная: заўсёды трымалі вялікую гаспадарку. Трэба было карміць кабылу Алісу, карову, цялушку, свіней, авечак, індыкоў, коз, трусоў, курэй.

### Гісторыю печы ведае ўся сям'я

Руская печ, якая стаіць у хаце, значна старэйшая. Ёй больш за 50 год. Гісторыю яе ведае ўся сям'я Дуровічаў.

Бацька Наталлі **Мікалай** працаваў у леспрамгасе. Неяк дапамог аднаму чалавеку. Той не меў чым заплаціць, таму прапанаваў: калі трэба будзе скласці печ ці грубку, кліч мяне. Маўляў, усё жыццё будзеш успамінаць і дзякаваць.

Так і сталася. Ужо 20 гадоў няма бацькі, а чырвоная кафляная печ па-ранейшаму служыць сям'і. Пра майстра Наталля ведае толькі тое, што яго звалі **Уладзімір** і быў ён з вёскі Пахомава. Цяпер гэтай вёскі не існуе: затапілі, калі запускалі Вілейскае вадасховішча.

### Рэстаранмае меню за засланкай

Уявіце, колькі за паўстагоддзя ў гэтай печы насушылі грыбоў, яблыкаў, напяклі пірагоў, хлеба, нагатавалі іншых смачных страў.

Мама Наталлі **Надзея Дуровіч** хлеб у печы пякла ў 1990-я. Па словах жанчыны, ён быў настолькі смачны і духмяны, што можна было есці адзін, без усяго.

Даведалася я і яшчэ пра адну страву, якую гатавалі ў печы – сырніцу.

Клінковы сыр наразалі і абсмажвалі на масле ў печы. На газе так нельга было зрабіць: кавалкі б развалiліся.

Шмат дзіцячых успамінаў Наталлі Дуровіч звязана з печчу.

– Раніцай бацькі ішлі на працу, – прыгадвае жанчына. – А я са старэйшымі братамі **Вовам** і **Сашам** – у школу.

Калі паля ўрокаў дзеці прыходзілі дамоў, бацькі былі яшчэ на працы. Але ў печы за засланкай дзятву чакаў клапатліва падрыхтаваны матуляй абед.

> На першае заўсёды быў суп у чыгунку, на другое мама часта гатавала калдуны.

Дэсертаў, па словах Наталлі, тады асабліва не было. Замест такога ласунку была груца з фасоляй, упараная ў печы. Усе стравы да абеду былі гарачыя.

– Вось як атрымлівалася: здаецца, і бацькі над намі не стаялі, але мы кожны дзень адчувалі іх клопат, – прыгадвае Наталля.

### Пра качаргу, чапялу, вілкі, санкі і палонных аўстрыйцаў

Пірагі на Вялікдзень Наталля і сёння пячэ ў печы па маміным рэцэпце.

> У печ улазіць шэсць вялікіх місак з пірагамі і дзве маленькія.

Аднак сын Наталлі **Мікалай**, які прыязджае ў Будзішча на свята з Мінска, увесь час узрушаецца, што мама пячэ мала пірагоў.

Каб паставіць стравы ў печ, трэба добра выграбці з яе попел. Таму побач у куце стаяць некалькі качэргаў, таксама зробленых дзедам. Тут жа вілкі, каб ставіць у печ чыгуны або "цыганы", як кажуць тут. Ёсць і чапяла, каб засунуць у печ патэльню. Мыць вілкі Наталлю мама навучыла ў дзяцінстве.

Упершыню я ўбачыла сані – металічную прыладу для сушкі грыбоў. Прыстасаванне сапраўды крыху падобнае на санкі. На яго вешаюць жалезныя пруткі з нанізанымі грыбамі і засоўваюць у печ.

Грыбоў у Наталлі заўсёды шмат. Ёсць "свае" мясціны ў будзеўскім лесе. Асабліва добра грыбы растуць у месцы, якое будзеўцы завуць Баракі.

У часы Першай сусветнай вайны тут быў шпіталь, дзе лячылі ваеннапалонных аўстрыйскіх салдат.

Старая жыхарка вёскі бабуля **Арына** распавядала Наталлі, як мясцовыя жанчыны з Будзішча па чарзе гатавалі есці і насілі тым аўстрыйцам у лес.

Па словах Наталлі, дакументаў пра гэты шпіталь яна нідзе не знайшла. Усё, што ёсць, – успаміны відавочцаў.

### Што на печы, а што пад печчу

Але вернемся да печы. На ёй зверху ў Наталлі цяпер у слоіках стаяць сушаныя грыбы, фасоля, вісіць цыбуля. Тут жа старая драўляная ступка, у якой гаспадыня таўчэ прыправы. На печы захоўвалі і захоўваюць усё тое, што баіцца вільгаці.

Зверху таксама дасушвалі яблыкі і сушылі чарніцы. Сушаныя ягады елі, калі балеў жывот. Казалі: што гэта за баба, у якой няма сушаных чарніц, прыгадала субяседніца.

На печы спалі, гулялі дзеці. Таму тут часта былі і дзіцячыя цацкі. Нават блін на печ бабуля магла падаць, усміхаецца Наталля.

А яшчэ на печы лячыліся. Казалі: баліць галава – лезь на печ. Баліць жывот – лезь на печ.

У падпечку – невялікай нішы ўнізе – захоўвалі чыгуны. А зімой бацькі Наталлі забіралі сюды курэй. Старэйшы брат Саша лазіў у падпечак збіраць яйкі.

– У наступны раз абавязкова запрашу цябе на якую-небудзь страву, прыгатаваную ў печы, – паабяцала гаспадыня.

На тым і разышліся.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Агульны выгляд горада-прывіду Прыпяці. Здымак 2006 года.



Від на БелАЭС, якую цяпер будуюць.

● МЕРКАВАННЕ

# Мы пражылі жыццё не так, як нам абяцалі. Чытаючы Нобелеўскага лаўрэата

## Мяне 20 гадоў мучыла пытанне, ці адчувае сваю віну за Чарнобыль былы сакратар ЦК КПСС

*Працяг. Пачатак у №28.*

**Зразумець, чаму я прачытаў "Чарнобыльскую малітву" толькі цяпер, а не 18 гадоў таму, я не магу. Заўсёды цікавіўся, што робіцца ў Чарнобылі і вакол яго, а галоўнага не ведаў.**

Чытаць цяжка, але яе павінны ведаць кожны беларус. Тут ужо людзі нічога не ўтойвалі, таму верыш кожнаму іх слову.

### У дзень аварыі раптам стала кепска

Чарнобыльская трагедыя закранула ўсіх нас. Перад 1 маем 1986 года ў выхадныя, у цёплы сонечны дзень, я распрануўся і перакопваў грады. У гадзін пяць вечара раптам навалілася слабасць, ды такая, што зусім не мог працаваць, чаго са мной ніколі не было. Кінуў рыдлёўку і лёг на ложак.

Падумаў, што мяне працягнула скразняком, а я, спацеўшы, не адчуў. Дрэнна адчуваў сябе тыдні два, быў у доктара, але ні ён, ні я не звязвалі хваробу з аварыяй на атамнай станцыі, з радыяцыяй. Ды і пра аварыю нічога праўдзівага не гаварылі. Значна пазней у мяне выявілі гіпатэрыёз. А каб ведалі і першыя 10 дзён, пакуль гарэў графіт і выдзялялася радыяцыя, прымалі ёд, дзясяткі тысяч людзей маглі б пазбегнуць гэтай хваробы.

Як адзначыў член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі **Іван Нікітчанка**, на шматпакутную Беларусь прыйшлося 70% радыеактыўных выкідаў. У выніку радыеактыўнае воблака накрыла прыкладна адну пятую частку тэрыторыі Беларусі.

### Каб радыяцыя не дайшла да Японіі, мы нічога б і не ведалі

Зноў кіраўніцтва краіны паказала, што жыццё чалавека ніхто не цэніць. Усё засакрэцілі, і калі б высокі радыяцыйны фон не дайшоў аж да Японіі і Канады, нам бы нічога не сказалі, загінула б значна больш людзей.

> **Першых памерлых ратавальнікаў АЭС хавалі ў Маскве, як ворагаў народа, каб ніхто не бачыў.**

А колькі часу калгаснікаў прымушалі працаваць там, адкуль іх трэба было адразу эвакуяваць. Колькі заражаных прадуктаў адразу трэба было закапаць у магільнікі, а людзям даваўся іх з'есці.

Мяне 20 гадоў мучыла пытанне, ці адчувае сваю віну былы сакратар ЦК КПСС **Мікалай Слюнькоў**? Чаму не прымаліся аператыўныя меры па правядзенні ёдавай прафілактыкі і адсяленні людзей, якія жылі паблізу атамнай станцыі? Многія кіраўнікі рэспублікі потым казалі, што яны нібыта не ведалі аб сур'ёзнасці аварыі.

### Нейкі прафесар асмеліўся вучыць ЦК?

У кніжцы Святланы Алексіевіч чытаю маналог былога дырэктара Інстытута ядзернай энергетыкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі **Васіля Несцярэнкі**, які цэлы дзень 26 красавіка 1986 года не мог дазваніцца з Масквы да Слюнькова. Калі ўрэшце Слюнькоў адгукнуўся, Несцярэнка яму сказаў: "Трэба неадкладна правесці ёдавую прафілактыку насельніцтва і адсяліць, хто жыве каля станцыі. Да ста кіламетраў трэба адсяліць людзей і жывёл". Слюнькоў адказаў: Мне ўжо дакладалі, там быў пажар, але яго патушылі".

29 красавіка а 8 гадзіне раніцы Васіль Несцярэнка ў прыёмнай Слюнькова. Прарваўся да яго толькі каля 18 вечара.

"Абрысоўваю карціну, якую бачыў учора ў Брагіне і Нароўлі. Трэба ратаваць людзей! На Украіне (я туды званіў) пачалася эвакуацыя..." І што ж ён пачуў ад Слюнькова? "Што гэта вашы дазіметрысты (з майго інстытута) па горадзе бегаюць, паніку сеюць! Я раіўся з Масквой, з акадэмікам **Ільіным**. У нас усё нармальна...

Несцярэнка адказаў: "Рана ці позна, але адказваць за гэта прыйдзецца... Вы пачняце апраўдвацца... што ў радыяцыі не разбіраліся. Я фізік і маю ўяўленне аб выніках".

Але як гэта? Нейкі прафесар, якіясьці фізікі, асмельваецца вучыць ЦК? Не, яны не былі шайкай бандытаў. Хутчэй за ўсё – змова невуцтва і карпаратыўнасці... не высоўвацца... патрафляць.

### Акадэміка палохалі псіхушкай і аўтакатастрофай

Васіля Несцярэнку перасталі прымаць, слухаць. Тады ён закідаў іх пісьмамі і дакладнымі запіскамі (чатыры папкі па 250 лістоў). З інстытута забралі ўсю апаратуру для радыяцыйнага кантролю. Маглі пасадзіць у псіхушку, палохалі аўтакатастрофай. Маглі завесці крымінальную справу

Яго давялі да інфаркту. Вось як улада расправілася з тымі, хто гаварыў праўду пра Чарнобыльскую трагедыю.

У канцы ён кажа: "Што нам сёння рабіць з гэтай праўдай? Цяпер? Як з ёй абысціся.

> **Калі яшчэ раз рване, паўторыцца тое самае... Мы ўсё яшчэ сталінская краіна..."**

Сёння амаль кожны пяты жыве на заражанай тэрыторыі Беларусі, а гэта больш за два мільёны чалавек, 700 тысяч дзяцей.

Пад саркафагам чацвертага рэактара засталося каля 20 тон ядзернага паліва. Што з ім робіцца сёння, не ведае ніхто.

Будуем новую атамную электрастанцыю.

**Леў ЧЫРВОНЦАЎ,**
**Маладзечна. Працяг будзе.**

**Даведка "РГ". Гіпатэрыёз** – паталагічны стан арганізма, абумоўлены хранічным недахопам у ім гармонаў шчытападобнай залозы.




**Леў Чырвонцаў**

Нарадзіўся ў 1937 годзе ў Мінску. Працаваць пайшоў у 15 год у Вілейцы. Там жа скончыў вячэрнюю школу пасля арміі, у 1960 годзе. Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі закончыў у 1968 годзе, Мінскую вышэйшую партыйную школу ў 1971-м.

49 год працаваў у Вілейцы і Маладзечне слесарам, токарам, майстрам, інструктарам ГК КПБ, дырэктарам КБА, на розных пасадах на Маладзечанскім заводзе "Электрамодуль", старшынёй гарадскога камітэта народнага кантролю.

Мае трох дачок і чацвярых унукаў. Жыве ў Маладзечне.

● КАЛЯНДАР

### 22 ЛІПЕНЯ

**80 гадоў** з часу выхаду (1937) пастановы ЦВК СССР аб заснаванні ў Мінску Беларускага інстытута фізічнай культуры (з 1992 года – Акадэмія фізічнага выхавання і спорту, з 2001-га – Беларуская дзяржаўная акадэмія фізічнай культуры, з 2003 года – Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт фізічнай культуры.

### 25 ЛІПЕНЯ

**1984 год.** Памёр **Уладзімір Караткевіч**, народны пісьменнік Беларусі.

**1997 год.** Памерла **Наталля Арсеннева**, паэтэса, дзеяч эміграцыі ў Германіі і ЗША.

**120 гадоў** назад (1897) нарадзіўся **Міхась Міцкевіч** (в. Мікалаеўшчына, цяпер Стаўбцоўскі раён, псеўданім Антось Галіна), пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Германіі і ЗША, малодшы брат Якуба Коласа.

Да вайны працаваў дырэктарам школы ў Мікалаеўшчыне, падчас нямецкай акупацыі – інспектарам беларускіх школ на Стаўбцоўшчыне. Разумеючы, што з прыходам Саветаў можа трапіць у лагер, з'ехаў у 1944-м на Захад і больш ніколі не бачыўся з братам.

Спачатку ён жыў у лагерах для перамешчаных асоб, а ў 1950-м перабраўся ў ЗША, дзе актыўна ўдзельнічаў у працы Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы.

Жыццё ў Нью-Ёрку было няпростым. Янка Запруднік, адзін са знакамітых дзеячаў эміграцыі, пісаў, што пэўны час Міцкевіч працаваў "з лапатаю на могільніку". Але частку зароблены грошай ён укладаў у выданне газеты "Беларус".

Тым часам у Беларусі яго выкраслілі з гісторыі. У 1974-м выйшаў фотаальбом "Якуб Колас. Жыццё і творчасць". На адной са старонак былі прадстаўлены партрэты ўсіх братоў і сясцёр пісьменніка, апроч грамадзяніна ЗША. Абураны, той пісаў сваякам у БССР: "Гэтымі днямі атрымаў атлас пра Коласа. Там ёсць здымкі Уладзі, Алеся, Лены, Юзіка, Міхаліны, Юзі і твой, Маня. А я хіба не існую?.." Міхась Міцкевіч ніколі не быў жанаты. Памёр 25 кастрычніка 1991 года на 95-м годзе жыцця.

**Дзень пажарнай службы ў Беларусі.**

**80 гадоў** з дня нараджэння **Дзмітрыя Смольскага**, кампазітара, педагога, народнага артыста Беларусі, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Маладзечанка пра 23 гады жыцця ў Я
# “Тэмпературу ў -50 градусаў перанос

МАЛАДЗЕЧНА

**Як гэта, калі зіма доўжыцца дзевяць месяцаў? Сакрэты выжывання людзей, якія жывуць у мясцовасці, дзе слупок тэрмометра апускаецца да мінус 50. Наколькі смачныя сырыя рыба і мяса?**

Каб даведацца, здзейснім завочнае падарожжа ў Якуцію разам з **Вольгай Новікавай**. Жанчына 23 гады пражыла ў горадзе Нерунгры, а шэсць гадоў таму пераехала ў Маладзечна.

– Калі пачалося будаўніцтва БАМа, многія людзі імкнуліся з’ехаць, каб падзарабіць, – расказвае Вольга. – Мае бацькі не былі выключэннем. 35 гадоў таму (1982 год) яны паехалі ў Якуцію з маёй старэйшай сястрой Людай і пасяліліся ў горадзе Нерунгры. Я ўжо нарадзілася там.

Бацькі Вольгі не планавалі надоўга заставацца: падзаробім – і вернемся. Аднак засталіся на 30 гадоў: у 90-х распаўся Савецкі Саюз, грошы абясцэніліся, не было з чым вяртацца.

– Колькі сябе памятаю, наша сям’я жыла марай: яшчэ крышачку – і вернемся на радзіму, – узгадвае жанчына. – Бацькі нават павучалі: “Ты не выходзь замуж, можа, хутка пераехаць давядзецца”.

Час, які Вольга пражыла ў Якуціі, лічыць адным з лепшых, з вялікай цеплынёй узгадвае.

### Лепш пераносіла -50, чым беларускія -15

Якуція настолькі вялікая, што мясцовыя жыхары жартуюць, быццам на іх плошчы змесціцца тры Францыі. Таму клімат у населеных пунктах істотна адрозніваецца.

У Якуцку больш лёгкі, зіма толькі чатыры месяцы, затое надзвычай суровая, слупок тэрмометра апускаецца да мінус 60. У сяле Аймякон даходзіць да мінус 72. У Нерунгры мінус 50 лічыцца нормай. Калі ж ніжэй, да -60, гэта ўжо актыраваны дзень: дзеці не ходзяць у школу, а ў пасёлку Ціксі забаронена працаваць жанчынам.

– Зіма ў Нерунгры цягнецца дзевяць месяцаў: ужо 1 верасня пачынае ісці снег, узмацняюцца маразы – і так да чэрвеня, – тлумачыць Вольга. – Вясны і восені амаль няма – хутка праходзяць. Чэрвень можна лічыць вясеннім месяцам, пасля працяглай зімы дрэвы раптоўна пакрываюцца зелянінай. Жнівень, нібы восень, хутка жаўцее і ападае лісце. Ліпень – летні месяц: паветра праграваецца да +40. За месяц паспяваеш загарэць. Купаюцца толькі сапраўдныя маржы, бо вада, як лёд. Цячэнне вельмі хуткае, а гэта яшчэ і небяспечна. Аднойчы я пакупалася, падалася, тысячу іголак упіліся ў цела. Смеласць далася мне запаленнем лёгкіх.

**Як прызнаецца жанчына, мінус 50 яна пераносіла лягчэй, чым мінус 15 беларускія. Першую зіму, як пераехала ў Маладзечна, вельмі мерзла, выходзіла на вуліцу і здавалася, што вось-вось задыхнецца. З часам прывыкла, але менш мерзнуць не стала. Уся справа ў паветры: у Якуціі яно больш сухое, а ў Беларусі – вільготнае, таму маразы больш адчувальныя.**

Аднак жанчына адзначае, што апошнім часам клімат памяняўся і ў Якуціі: цёплая восень часцей назіраецца.

– Калі мне было 17 гадоў, Новы год у Нерунгры запомніўся тым, што было надзвычай цёпла, мінус 8, – усміхаецца Вольга. – Людзі хадзілі ў кофтах, байках.

У горадзе ёсць гарачая мінеральная крыніца. На вуліцы мінус 50, а зойдзеш у крыніцу – гарачыня разліваецца па целе. Але купаюцца ў пясцовых шапках, каб галава не замерзла падчас працэдуры. Крыніца лічыцца гаючым месцам, таму купаюцца абавязкова. Адзіны мінус тое, што выдзяленні серавадароду маюць не вельмі прыемны пах.



Вольга Новікава пражыла 23 гады ў горадзе Нярунгры, а шэсць гадоў таму пераехала ў Маладзечна.

### Туман, ад якога можна памерці

Калі паветраны ціск зімой падае, горад патанае ў тумане. Пры гэтым ён настолькі густы, калі руку адставіць, не ўбачыш яе. Дрэнна робіцца людзям, падаецца, што ў лёгкіх не хапае паветра, некаторыя трацяць прытомнасць. Ёсць небяспека, бо калі ўпадзеш, цябе не змогуць знайсці і выратаваць, пакуль не рассеецца туман.

Зімой небяспечныя і паездкі з аднаго горада ў другі. Па-першае, таму што населеныя пункты далёка адзін ад аднаго. Напрыклад, ад Якуцка да Нерунгры каля 800 кіламетраў, дабрацца цяжка, чыгункі няма.

**Таму, калі Вольга вучылася там, прыязджала да бацькоў два разы на год: на Новы год і летам.**

Па-другое, калі ў дарозе зламалася машына, чалавеку нічога не застаецца, як ісці пешшу альбо сядзець на месцы – а гэта верная гібель. Калі не было мабільных, такія выпадкі здараліся.

Дызельных машын у гарадах няма праз вялікі мароз, толькі бензінавыя. Няма і трамваяў, тралейбусаў.

### Тое, што напалюеш, зімой і будзеш насіць

– Аднак вечная мерзлата для жанчын мае прыемны бонус,– расказвае Вольга. – Усе ходзяць у надзвычай дарагіх уборах: натуральныя футры, шапкі. На ногі своеасаблівы абутак – унты. Гэта нешта накшталт валёнак, толькі з аленевай шкуры. Уверсе яны ўпрыгожаныя разнастайным арнаментам, абшытыя бісерам. Такі абутак вельмі практычны. Па-першае, не намакае, не намярзае. Калі ступіць у ваду, ногі мокрымі не будуць, усё сцячэ па поўсці.

У Беларусі жанчыне адзін раз прыйшлося надзець унты. Калі гуляла з малым дзіцем, ад вялікай вільготнасці ногі мерзлі, унты ратавалі ад холаду.

Дабіваюць футра на зімовыя ўборы мясцовыя жыхары самастойна. Асноўны занятак – паляванне.

– Смешна было, калі аднойчы ў магазін прывезлі футра з егіпецкай норкі, – з усмешкай распавядае Вольга. – Матэрыял настолькі тоненькі, што мясцовыя жыхары проста б не выжылі ў такім уборы пры мінус 50.

Сонечнымі зімнімі днямі з’яўляецца мода на сонечныя акуляры. Без іх проста немагчыма выйсці, сонца, якое адбіваецца ад снегу, проста не дае расплюшчыць вочы. Мясцовыя жыхары над гэтым часта жартуюць: вось таму ў нас і вузкія вочы, каб нешта бачыць на дарозе.

– Выходзячы на вуліцу зімой, жанчыны не карыстаюцца касметыкай, – адзначае Вольга. – У памяшканні туш і цені пацякуць, бо вейкі пакрываюцца інеем. Таму фарбуюцца толькі ў памяшканні. Гэта звычка жыве ў мяне і цяпер.

### Завешвалі вокны коўдрай, каб паспаць

Асобнай тэмы заслугоўваюць ночы ў Якуціі. Летам наступаюць белыя ночы. Відаць усё, як днём. У іх сям’і вокны завешвалі коўдрай, каб заснуць. А зімой шчасціць убачыць палярнае ззянне.

– Аднойчы бачыла яго, калі была ў Якуцку, – шчаслівa распавядае Вольга. – Аднак гэта было несапраўднае палярнае ззянне. Неба гарэла зялёным і жоўтым колерамі. Сапраўднае палярнае ззянне мае ўсе колеры вясёлкі і нават адценні.

У познім жніўні наступае зоркапад, жаданне можна загадваць ледзьве не кожную хвіліну.

– Прыехаўшы ў Беларусь, было адчуванне, што неба знаходзіцца амаль над галавой, – кажа ўсхваляваная жанчына. – Здавалася, што паднімі руку ў неба – і дастанеш да аблокаў. У Якуціі неба высокавысока, недзе там, у космасе.

### Чаму некаторыя жанчыны ў Нерунгры нараджаюць раней тэрміну?

Вакол населеных пунктаў – тайга. Таму нярэдкія выпадкі, што мядзведзі часам падыходзяць да людскога жылля. Тады выклікаюць паляўнічых.

– У Нерунгры радзільня знаходзіцца на ўскраіне горада, – расказвае Вольга. – Некаторыя парадзіхі палохаліся, калі бачылі мядзведзя, таму нараджалі раней тэрміну. Драпежніка стараліся хутчэй злавіць, каб ніхто не пацярпеў. Бо смерць ад яго лапы – страшная. Жывёла доўга мучыць ахвяру.

### Навучыліся вырошчваць бульбу за месяц

Напэўна, самай жахлівай навіной для многіх беларусаў будзе тое,

# …куціі:
# …іла лягчэй, чым -15 у Беларусі”



Напярэдадні Новага года на плошчы ў Нярунгры робяць разнастайныя фігуры з лёду.



Бацькі Вольгі Аляксандра і Людміла Новікавы ў 1982 паехалі ў Якуцію падзарабіць, там яна і нарадзілася.



Вольга разам з мамай на рацэ Лена.

што ў Якуціі няма агародаў, бо лета доўжыцца толькі месяц. Аднак самыя апантаныя агароднікі навучыліся вырошчваць бульбу, агуркі і іншую гародніну за месяц.

– Вырошчваюць арктычныя сарты, – тлумачыць Вольга. – Ёсць спецыяльны інстытут, які вынаходзіць такія. Аднак і бульба, і агурочкі, якія вырастаюць, вельмі маленькія.

Сельская гаспадарка развіваецца толькі ў паўднёвых частках Якуціі, дзе клімат больш спрыяльны для вырошчвання разнастайных культур.

З дрэў растуць пераважна сосны, елкі, кедры, таксама ёсць тапаля і бяроза. Ні клёнаў, ні пладаносных дрэў няма, таму цэны на фрукты, садавіну шалёныя. Напрыклад, дазволіць паласавацца клубніцамі могуць толькі самыя багатыя.

Фрукты прывозяць з Кітая, аднак яны не смачныя, вадзяністыя, таму асаблівага жадання іх каштаваць у мясцовых жыхароў няма. Затое лясы вельмі багатыя на грыбы і ягады: бружмель (жымолость), марошку, брусніцы, дурніцы.

## Дапамагаюць адзін аднаму, каб выжыць у суровым краі

– Вечны холад, адсутнасць агародаў даюць магчымасць людзям заняцца самаадукацыяй, развіваць культуру, – расказвае Воля. – Першы час, калі прыехала ў Беларусь, чула воклічы: “Вось ты з тундры прыехала!” Аднак не трэба думаць, што людзі там, акрамя снегу, нічога не бачаць. Наадварот, шмат сіл укладаюць у адукацыю, вывучаюць культурную спадчыну розных краін свету, іграюць на музычных інструментах.

> У характары якутаў жанчына адзначае спакойнасць, ураўнаважанасць.

Пры гэтым вельмі развітая каманднасць па вядзенні спраў.

– Людзі дапамагаюць адзін аднаму, бо ведаюць, што ў суровым краі аднаму складана выжыць, – расказвае Вольга. – У Беларусі адваротная сітуацыя: кожны сам па сабе, у большасці людзі жывуць толькі сваімі праблемамі.

Яшчэ адна асаблівасць, якую Вольга заўважыла ў беларусах, калі пераехала, што мужчыны вельмі ашчадныя і эканомныя, у Якуціі – больш шчодрыя. Выслоўі кшталту: “Плачу за ўвесь рэстаран” – гэта дакладна пра якуцкую шчодрасць.

– Насельніцтва Нерунгры вельмі стракатае, – адзначае былая жыхарка Якуціі. – Людзі з'язджаліся з розных краін свету і заставаліся. Якутаў налічваецца каля 20%. Доўгі час якуцкую мову не чула, пакуль побач з намі не пасяліліся гэтыя людзі.

## “Правядзеш рукой па мэблі, а яна ў залатым пыле”

У кожным горадзе Якуціі нешта здабываюць: у горадзе Мірны – алмазы, у Алдане і Аймяконе – золата, ёсць 48 месцаў, дзе здабываюць вугаль, адно з іх у горадзе Нерунгры, у пасёлку Усць-Нера – сурму.

– Калі была маленькая, часам на летніх канікулах прыязджала ў Беларусь да сваякоў, – узгадвае Вольга. – У мяне пыталіся, ці сапраўды ў нас здабываюць золата? Канешне, мне, маленькай дзяўчынцы, хацелася, каб у Беларусі думалі, што ў нас гэтак жа класна, як і тут. Таму расказвала байку, якую сама прыдумвала.

> Гаварыла, што сапраўды ў нас здабываюць золата, і калі вечарам прыйсці дадому і рукой дакрануцца да стала альбо іншай мэблі, то рука будзе ў залатым пыле.

Аднак на самой справе ў горадзе Нерунгры здабывалі вугаль адкрытым способам, а не ў шахтах. Таму пыл быў па ўсім горадзе. Ён ляцеў праз вокны з драўлянымі рамамі. І правёўшы рукой па шыбе, яна станавілася чорнай ад вугальнага пылу. Цяпер праблему часткова вырашылі пластыкавыя вокны.

## Струганіна і сырое мяса з соллю – лепшы ласунак для якута

У ежу якуты любяць ужываць сырыя стравы: струганіну – сырую рыбу, якую трэба запіваць спецыяльнымі алкагольнымі напоямі; сырое і марожанае мяса, якое мачаюць у соль. Сырую печань каніны даюць дзецям з самага ранняга ўзросту.

– Адзін раз мяне пачаставалі сырым мясам, – дзеліцца жанчына. – Аднак асалоды не атрымала, пасля дрэнна было. Таму ўпэўнілася ў тым, што трэба харчавацца тым, да чаго прывучаны з самага маленства. Затое ў інтэрнаце давялося пакаштаваць фаршыраванага карася з рысам, такога смакоцця ніколі ў жыцці не ела.

Бацька Вольгі быў паляўнічым, таму частай стравай дома была аленіна.

– Гэта настолькі далікатнае мяса, што словамі не перадаць, трэба каштаваць, – наганяе апетыт жанчына. – Мядзведжае мяса бацька заўсёды аддаваў на праверку, бо гэта жывёліна хварэе на тыя ж хваробы, што і чалавек. А вось аленіну можна не правяраць, лічылі, што гэта мяса не можа быць шкодным для чалавека.

Галоўнае, чаму навучыла жыццё ў Якуціі, – непераборлівасці, прыстасаванасці да розных умоў жыцця, дзейнічаць у экстрэмальных умовах, падагуліла былая жыхарка Нерунгры.

**Фота забяспечанае Вольгай НОВІКАВАЙ.**



Галіна СУДНІКОВІЧ
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

Аўтарская калонка

Сяргей УЛАДЫКА



## Памочнік трэнера хапаецца за галаву: як такое магло адбыцца?

МАЛАДЗЕЧНА

Калі птушкі ляцяць на поўдзень – яны не трывіяльна намякаюць нам аб набліжэнні даволі сумнай, як пісаў Пушкін, пары.

Калі "Крумкачы", пераможна ўзмахнуўшы крыламі, адпраўляюцца з сонечнага горада ў далейшае падарожжа, то пакідаюць нас шкадаваць аб тым, што ў Маладзечне па-ранейшаму няма вялікага футбола. Што прылёт ў нашы краі птушак з вышэйшай лігі – падзея зусім нерэгулярная.

Тым не менш, футбол у горадзе ёсць. Хай не самага высокага ўзроўню, аднак душэўны. Вечарам у суботу ў нас гасцявалі хлопцы з Мар'інай Горкі.

**15 ліпеня "Маладзечна-ДЮСШ- 4" прайграла "Вікторыі" (Мар'іна Горка) з лікам 1:2.**

Калі мы с жонкай прыйшлі на стадыён і занялі лепшыя месцы, то ў вочы кінуліся дзве рэчы.

Першае – на арэне няма хлопчыкаў, якія падаюць мячы.

Пасля гульні **Андрэй Іваненка**, фундатар і дырэктар каманды, пракаментаваў сітуацыю так, што трэнеры мясцовай ДЮСШ не згодныя пасылаць дзяцей, каб тыя дапамагалі дарослым футбалістам бясплатна. Даволі дзіўная прычына, але ў нашым суровым свеце, мабыць, трэба плаціць нават дзецям. Праўда, не ўпэўнены, што гэта не супярэчыць закону. Так ці інакш, Іваненка пайшоў на прынцып і плаціць не стаў.

Другое, што кінулася ў вочы і стала іх "рэзаць", – вобраз варатара футбольнага клуба Маладзечна. Падалося, што ён вельмі юны і таму малы ростам. Крыху пазней атрымалася высветліць, што **Радзівону Субачу**, які ўвесь матч вартаваў вароты гаспадароў поля, ужо 17 гадоў і вялікіх надзей на скарачэнне адлегласці паміж макушкай яго галавы і ашэсткам ускладаць не варта.

Менавіта Радзівон стаў галоўнай прычынай паразы нашай каманды. Калі футбаліст "Вікторыі" метраў з 30 прыклаўся да мяча, здавалася, што ў Субача ёсць час прыняць ванну, выпіць кубачак кавы і пасля гэтага спакойна забраць мяч у левым ад сябе куце. Тым не менш, варатар запазніўся са скачком, з-за чаго не змог справіцца з адскокам мяча ад газона. 0:1, і памочнік галоўнага трэнера **Мікалай Татун** хапаецца за галаву, не разумеючы, як такое магло адбыцца.

Часу на выпраўленне сітуацыі было яшчэ шмат, і нашы хлопцы завалодалі ініцыятывай. Так з надзеямі на лепшае маладзечанцы і сышлі на перапынак. Але старт другой паловы зноў прымусіў балельшчыкаў пашкадаваць аб прысутнасці на полі Субача. Другі ўдар у створ яго варотаў яшчэ раз аказаўся выніковым. Каб падбадзёрыць гульцоў, хтосьці з балельшчыкаў крыкнуў: "Хлопцы, не бойцеся! На варотах сцяна! У атаку!"

Па трыбунах пранёсся рогат, а футбалісты разгарнулі актыўнае наступленне на чале з **Сяргеем Лаворам**.

Левы нападаючы гаспадароў прымусіў захапляцца сваёй гульнёй і здзіўляцца, чаму ж да гэтага часу Сяргей не атрымаў магчымасць паспрабаваць свае сілы на больш моцным узроўні. Менавіта Лавор і скараціў адставанне ў ліку. Затым меў яшчэ некалькі добрых магчымасцяў забіць, але ў тых выпадках не пашанцавала.

Таксама быў момант з прыстаўкай "супер" у **Талькоўскага**, якому стварыў яго **Сіяка** цудоўным пасам пасля прыгожага праходу па флангу. Але Ігар праявіў жахлівую марудлівасць. Жахлівую для гульца, які прэтэндуе на нешта большае, чым кар'ера ў другой лізе.

З усяго гэтага і склалася паражэнне падапечных **Дараховіча**. Не сказаць, што нашы хлопцы яго цалкам заслужылі, але каб выконваць пастаўленую задачу – павышэнне ў класе – неабходна расці. Расці прафесійна, а нашаму варатару, акрамя гэтага, расці і ў літаральным сэнсе слова – дадаючы ў сантыметрах.

Пажадаем ім поспехаў, бо заўзятарам вельмі хочацца ў недалёкай будучыні паглядзець, як топчуць газон "гарадскога" ногі лепшых беларускіх футбалістаў. Футбалістаў, якія б супрацьстаялі не рознага роду прышлым, накшталт "Іслачы", а камандзе нашага роднага горада.

ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ

# Як выйграць, калі твая пазіцыя – відавочны пройгрыш

*Прыязджае пажылы мужчына з глухой таёжнай вёсачкі ў вялікі горад і ідзе ў краму інструментаў.*

*– Сынок, мне б пілу якую-небудзь, – звяртаецца да кансультанта ў зале.*

*– А вам якую?*

*– Ну, мне такую, каб дрэў шмат зваліць можна было.*

*Кансультант падводзіць яго да вітрыны, паказвае мадэль.*

*– Вось глядзіце, гэтай пілой можна зваліць 10 дрэў за 5 хвілін. Вось гэтай ужо 20 дрэў зваліць за той жа час. Ну, а вось гэта каштуе тысячу долараў. Узяўшы яе ў рукі, вы зможаце зваліць 40 дрэў усяго за пару хвілін.*

*– Ого! Давай мне за тысячу.*

*Дзядок расплачваецца, забірае сваю пакупку і сыходзіць. Праз некалькі дзён ён увесь у мыле і з дрыготкімі рукамі зноў з'яўляецца ў краме.*

*– Ты, сынок, навошта дзядулі схлусіў? – звяртаецца мужчына да прадаўца. – Я з гэтай пілой змог паваліць толькі чатыры дрэвы за цэлую гадзіну!*

*– Давайце паглядзім, – адказвае прадавец, забірае пілу і, заліўшы ў бак каністру бензіну, заводзіць інструмент.*

*Дзед, адскочыўшы на паўметра, спалохана прамовіў:*

*– Ой, а чаго гэта яна ў вас зазвінела?*

І зноў, вітаю! Непісьменнасць і варварства – наш біч, і з ім трэба змагацца. Шахматы – не толькі набор драўляных фігурак. Вучыцеся забіваць у сабе ляноту і прымушаць душу і розум працаваць. Гэта ж вельмі цікава, ды і як па-іншаму?

### Каспараў і Карпаў: хто каму прайграў у дурня

Чытачка пытаецца: калі дзіця цікавіцца і шашкамі, то ці варта вучыцца гуляць і ў шашкі? Дарагія, у свеце так шмат усяго прыгожага! Вядома, заўсёды трэба выбіраць. Але ўмець і арыентавацца хоць трохі для эрудыцыі трэба ва ўсім. Акрамя шахмат рэкамендую навучыцца гуляць у шашкі, брыдж, рэндзю, го, нарды, баку і нават у дурня! Чэмпіён свету па шахматах Анатоль Карпаў у вузкіх кулуарах быў неафіцыйным чэмпіёнам па гульні ў дурня. Распавядалі, што Гары Каспараў аднойчы ў самалёце прайграў Карпаву ў дурня першы прыз па шахматным турніры, на які яны ляцелі. Гэта значыць, Каспараў яшчэ не выйграў, але ўжо прайграў.

Калі ваша дзіця імкнецца да інтэлектуальных гульняў – заахвочвайце і развівайце. Іншая справа, што гэта можа быць лёгкая дзіцячая цікавасць, і ператварыць гэта пакуль яшчэ слабае і крохкае жаданне ў "хранічную лагічна-інтэлектуальную дзейнасць" вельмі складана. Тут, як і ва ўсім, калі перад вамі будучы чэмпіён, то вы нічога не зробіце, нават калі будзеце вельмі супраць. Калі перад вамі пасрэднасць, то таксама вельмі цяжка змяніць сітуацыю ў лепшы бок.

Маё меркаванне – усе дзеці добрыя, здольныя да навучання. У свой час, а гэта было ўжо гадоў з дзесяць таму, я з дзесяці "дадзеных мне дзяцей" за пяць гадоў ператварыў іх у лепшую дзіцячую каманду Мінскай вобласці. І кожны з гэтых дзяцей, даросшы ад 2 разраду да кмс, пайшоў сваім шляхам, і, па чутках, нават вельмі нядрэнным!

### Шахматы да раніцы

Іншая справа дарослыя, і культура інтэлектуальных зносін. Куды яна дзелася?

**Куды дзеліся з гарадоў і паркаў дзядулі з іх столікамі і альтанкамі, з іх шахматамі, даміно, нардамі і шашкамі? Куды дзелася традыцыя гуляць у кампаніі ў дурня?**

Успамінаю гісторыю. Неяк летнім днём вырашыў пагуляць у нарды з суседам. Але не дома, а каля пад'езда. Справа была ў нядзелю, каля 12 дня. Вынес нарды на лавачку, паклікаў суседа, і мы пачалі гуляць. Набег народ. Мне ледзь далі дайграць гульню. Па-добраму – прагналі, і ўвесь дзень, да апоўначы, лавачка бурна гула. Нарды вярнулі ноччу. Больш іх ніхто не выносіў. Больш ніхто не гуляў.

Хачу ўспомніць з гэтай нагоды яшчэ адну маладзечанскую легендарную асобу – **Міхаіла Дыдзіка**. Ён жыў у дварах за "Космасам". Трымаў невялікі клуб. Гэта было некалькі збітых сталоў і лаўкі, нават без падстрэшка. Пачынаючы ад мая і да глыбокай восені ён выносіў на столікі камплектаў пяць шахмат, і жыццё ў "клубе Дыдзік" бурліла... да раніцы! Я таксама прайшоў гэтую цікавую інтэлектуальную школу. Публіка была разнамасная: ад адстаўных вайскоўцаў да настаўнікаў, медыкаў, інжынераў, кіраўнікоў кадраў. Гуляў пераважна ў шахматы, але не грэбаваў і шашкамі, прэферансам і даміно.

Міхаіла Дыдзіка, а ён быў настаўнікам у палітэхнікуме, ужо даўно няма з намі.

А ў Еўропе актыўна развіваюць "Майнд спорт алімпіяд" – алімпіяды інтэлектуальных гульняў. На іх прыязджаюць тысячы ўдзельнікаў. Гэта вялікі рух.

Дастаткова ўспомніць, што пасля Алімпіяды ў Пекіне адбылася такая ж сусветная алімпіяда па разумовых гульнях. І ў ёй удзельнічаў маладзечанец **Яўген Чаеўскі** ў якасці аднаго з трэнераў і гульцоў беларускай каманды па брыджу. А вы ведаеце, што Маладзечна – сталіца брыджа ў Беларусі?

Шахматы – гэта не толькі група фігурак і кавалачак дошкі. У шахматы трэба гуляць! І, па аналогіі з бензапілой, тады яны зазвіняць і зайграюць фарбамі.

### Выйгрыш пры пазіцыі адавочнага пройгрышу

Ёсць у шахмат яшчэ і эстэтычны бок. Пагаворым аб шахматнай эстэтыцы – шахматнай кампазіцыі. У шахматах таксама ёсць кампазітары! Перад намі знакаміты эцюд 1922 года вядомага шахматыста, гросмайстра, кампазітара Рыхарда Рэці:




Усяго два каралі і дзве пешкі, а столькі цікавых падзей на дошцы! Паглядзіце ўважліва:

чорная пешка на H5 вольная і гатовая імчацца да поля пераўтварэння h1, каб стаць ферзем.

Белы кароль на h8 вельмі далёка, і, здаецца, нічога не можа прадухіліць каварны рух чорнай пешкі ў ферзя. На другім баку дошкі адваротны бок медаля. Белая пешка C6 амаль знаходзіцца ў абдымках чорнага караля A6, і пры любым сваім руху тут жа затрымаецца і нейтралізуецца. Быццам бы белым трэба здацца і не мучыць сябе і гледачоў.

Аднак 1. Kpg7! h4 2. Kpf6! H3.

Што змянілася за два хады? Белы кароль, як факір, гнаўся адразу за двума зайцамі, і, дарэчы, у шахматах гэта часта атрымоўваецца з поспехам. Белы кароль з аднаго боку набліжаўся да чорнай пешкі і вымушаў яе рухацца, з іншага боку – спяшаўся на падмогу да сваёй пешкі C6. І гэта яму ўдалося.




І белай, і чорнай пешкам засталася па два хады да поля пераўтварэння. У адрозненне ад пачатковай дыяграмы белая пешка C6 ўжо не такая адзінокая, да яе на дапамогу спяшаецца белы манарх!

Адразу рух белай пешкі на c7 не праходзіць, з-за Kpb7. Таму: 3. Kpd3! A7 4.C7.

У выпадку a1Ф белыя праводзяць пешку на c8Ф з шахам. А на Kpb7 гуляюць Kpd7 і зноў праводзяць пешку ў ферзь з шахам. Нічыя! Белыя дамагліся нічыёй пры пачатковай ацэнцы пазіцыі як адавочны пройгрыш.

Усім удачы і добрага настрою! Гуляйце, кантактуйце, вывучайце любыя інтэлектуальныя гульні. Але не забывайце, што шахматы ў іерархіі любых інтэлектуальных гульняў знаходзяцца на вяршыні.



**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.**



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Выцэджваць малако з вымя.
3. Поўнасцю, зусім, без астатку.
4. Сукупнасць прадметаў, прылад, якія складаюць маёмасць прадпрыемства, установы, арганізацыі.
7. Вялікі масіў лесу (галоўным чынам у Беларусі і Польшчы).
8. Што вынайшлі пасля таго, як у канцы 19 стагоддзя адзін партовы рабочы трапіў у бочку са шкіпінарам?
11. Які складаецца з двух аднародных або падобных прадметаў, частак; падвойны.
12. Незаселены, неапрацаваны ўчастак зямлі.
15. Публічнае паведамленне на пэўную тэму.
16. Над стварэннем гэтай сінтэтыкі працавалі адначасова ў Нью-Ёрку і Лондане, што адлюстравана ў назве прадукту.
18. Красуня, прыгажуня.
20. Круглае пірожнае з заварнога цеста з тварожна-крэмавай начынкай.
24. У адным з в’етнамскіх гарадоў нечакана заўважылі, што статуя жраца надвор’я, сярэдневяковага філосафа Вукхака, гэта не твор мастацтва, а ...
25. Пачатая справа.
26. Як па-лацінску будзе “той, хто збіраецца сыходзіць”?
31. Пры Івану IV выпусцілі грошы, на якіх была выява вершніка з кап’ём у руцэ. Як такія грошы пачалі называць?
32. У гэтай дысцыпліне нож з’яўляецца знакам вайны, відэлец – фанабэрыстасці, а лыжка – міру.
33. У іх знаходзілі паштовыя пасылкі, бляшанкі, каву, кансервы, манеты, акуляры, гадзіннікі, рэшту забальзамаванай муміі, пішучыя машынкі, рэвальверы, гранаты, дакументы з ключом да японскага шыфра.
35. Платон абраў для сваіх прагулак і размоў адзін сад у Афрыцы, які быў названы ў гонар аднаго героя, што дапамог вызваліць Еўропу, скрадзеную Цесеем. Якую назву атрымала філасофская школа Платона.
38. Ніжняя частка якой-небудзь адзежыны, палавіны якой спераду расхінаюцца; пала.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Нешта незвычайнае, тое, што выклікае здзіўленне.
5. На яго шчыце выява маладога дуба, вырванага з коранем з надпісам “Пазбаўлены спадчыны”.
6. Невялікая булка, начыненая цыбуляй.
9. У Японіі насіць іх маглі толькі шляхетныя людзі. Кароль Бірмы меў іх 24, і ўсе з белага шоўку. У Еўропе з’явіўся ў 18 стагоддзі. Калі падарожнік Джонас Хенцэй выйшаў з ім на вуліцу, яго асмяялі. Гандляра імі ў Амерыцы закідвалі камянямі, таму што, ўбачыўшы іх, коні ўставалі на дыбы.
10. У граматыцы – прошлы час дзеяслова ў некаторых мовах, які выражае працягласць і незакончанасць дзеяння; прошлы незакончаны час.
11. Вёска ў Астравецкім раёне, у якой месціцца драўляная капліца Маці Божай Нястомнай Дапамогі.
13. Што калекцыянавалі Клеапатра, Клаўдзій, Калігула, Нерон?
14. Дзіцячы аздараўленчы цэнтр у Вілейскім раёне, дзе ў ліпені пачалі ўстанаўліваць фотаэлектрастанцыю, прывезеную на сямі грузавіках.
17. У свой час свае прэтэнзіі на права лічыцца яе гаспадаром прад’явілі Аўстралія, Аргенціна і Вялікабрытанія. Аднак у выніку міжнародная супольнасць дамовілася лічыць яе запаведнікам прыроды.
18. Раменік, які вырабляе шкуры на футра і шые з футра.
19. Скажонае ўяўленне, уражанне, заснаванае на падмане пачуццяў; прыняцце ўяўнага за сапраўднае.
21. Гэту ежу вынайшлі манахі бенедыктыне. Меркавалася, што менавіта гэты гатунак будзе перасцерагаць ад абжорства.
22. “... прагуляеце – восенню не збераце”.
23. Паводле кітайскай традыцыі, у яго галава вярблюда, вочы д’ябла, вушы каровы, рогі аленя, ногі тыгра, шыя змяі, кіпцюры арла, жывот малюска і луска карпа.
27. Якое слова прыдумаў Марка Пола, каб апісаць незлічоныя багацці Усходу?
28. Назва апошняй літары царкоўнаславянскай і старажытнарускай азбукі, якая абазначала гук “і”.
29. Вынаходніцтва манаха Гвіда Арэцінскага. Ён увёў рад з шасці частак, кожная з якіх атрымала імя, а назвы ўзяў з першых шасці слоў лацінскага гімна. Праз 500 год у гэты рад дадалі сёмы кампанент.
30. Гэты “забойца”, які наведаў Лондан у 1952 годзе на чатыры дні, стаў прамой ці ўскоснай прычынай гібелі амаль 4 000 чалавек. У пачатку снежня 1962 года ён таксама наведаў Лондан, і зноў не абышлося без ахвяр.
34. У сярэднявечча англійскі парламент павялічваў гадавы падатак на 4 шылінгі ў дамах, дзе іх было 10, яшчэ на 8 шылінгаў павялічылі падатак у дамах, дзе іх было 20.
36. Раней яго рабілі з абсідыяну, золата, срэбра, бронзы, медзі, горнага крышталя.
37. У слоўніку пачатку 19 стагоддзя гэтае слова тлумачылі як “марскі выраз, які ўжываюць на караблі ў значэнні “слухай”.

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №28

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Шуфель. 6. Жалезабетон. 7. Удзел. 8. Штрых. 9. Яшма. 10. Вочы. 14. Шомаў. 16. Юрыст. 19. Пілігрым. 20. Юніёр. 22. Шавец. 24. Адэкалон. 25. Улада. 26. Плазма. 27. Улоў. 28. Яднаць. 29. Упікі. 32. Ява. 33. Шалік.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Перашкода. 3. Ягель. 4. Песа. 5. Усмешка. 7. Уток. 8. Шарбет. 11. Шал. 12. Паэзію. 13. Карнюткі. 15. Юбіляр. 17. Шмалец. 18. Ужытак. 21. Шахта. 23. Відэлец. 24. Астравец. 25. Уралогія. 26. Перон. 30. Лысіна. 31. Янычар. 32. Яканне.

## ГАРАСКОП 21-27 ЛІПЕНЯ



**АВЕН.** Працуйце над сабой, мяняйце да лепшага свае адносіны да людзей і да свету. Не будзьце ганарлівыя, бо менавіта ганарлівасць будзе перашкаджаць развівацца. Калі ў вас дрэнны настрой – ешце цытрусавыя, больш гуляйце, з’ешце кавалачак шакаладу. Абавязкова высыпайцеся і не перагружайце сябе сумнымі справамі.



**ЦЯЛЕЦ.** Стварыце шчасце ў сваёй галаве, і яно абавязкова стане рэальнасцю.



**БЛІЗНЯТЫ.** Звяртайце ўвагу на здароўе. Бо ад таго, як будзеце сябе адчуваць, залежаць шчасце ў асабістым жыцці, поспех, кар’ера. Не дазваляйце пабочным асобам умешвацца ў ваша жыццё, бо іх добрыя парады могуць прывесці да плаксівых вынікаў.



**РАК.** Калі вы вырашылі штосьці змяніць у сваім жыцці, асабліва калі гэта звязана з інтэлектуальнай сферай (напрыклад, вывучаць штосьці новае, асвойваць новыя накірункі дзейнасці), то гэтыя дні падыходзяць для такіх пачынанняў. Вынікам вашых намераў будзе атрыманне эмацыйнага задавальнення, што адаб’ецца і на іншых сферах вашага жыцця.



**ЛЕЎ.** Не трэба вам прымаць цяпер нейкія рашэнні і спрабаваць каму-небудзь штосьці даказваць. Лепш супакойцеся, расслабцеся і радуйцеся таму, што вы маеце. А гэта не так ужо і мала.



**ДЗЕВА.** Каб аднавіць растрачаныя сілы, паназірайце за рыбкамі ў акварыуме.



**ШАЛІ.** Вы шмат клапоціцеся пра іншых, але забываеце пра сябе. З-за гэтага ў вас дэпрэсіі, дрэнны настрой, стомленасць. А вы ж для сябе самы галоўны чалавек. І любіць сябе вы павінны больш за ўсіх. Толькі тады ў вас буду сілы на іншых.



**СКАРПІЁН.** На вас нойдзе нейкая нястрыманасць, ад чаго вы рызыкуеце сапсаваць адносіны нават з лепшым сябрам. Трымайце свае крыўдныя выказванні пры сабе.



**СТРАЛЕЦ.** У спрэчных сітуацыях прыслухоўвайцеся да ўласнай інтуіцыі, яна не падвядзе вас ні сёння, ні заўтра.



**КАЗЯРОГ.** Для маладых і адзінокіх гэта той час, калі вы можаце завесці новае знаёмства, і, магчыма, яно будзе мець перспектыву. Даверцеся лёсу і не спрабуйце супраціўляцца. І ўбачыце – усё складзецца найлепшым чынам.



**ВАДАЛЕЙ.** Вы поўныя пачуццяў і імкненняў, і ваш эмацыйны парыў знаходзіць адлюстраванне ў навакольным свеце, ён дапаможа вам знайсці доўгачаканае каханне. Памятайце толькі адно, што ў любога дзеяння ёсць, як мінімум, два бакі. Эмоцыі могуць прыносіць як радасць, так і засмучэнні. Трымайцеся светлага боку вашых пачуццяў, і тады ўсё будзе добра, не дазваляйце сабе расстройвацца ці перажываць па нейкай там прычыне, інакш негатыўныя эмоцыі захліснуць вас.



**РЫБЫ.** Вам вельмі хочацца матэрыяльных каштоўнасцяў, багацця і г.д., хоць натура вы больш эмацыйная, чым меркантыльная. Тым не менш шанец атрымаць жаданае ў вас ёсць. Але не лавіце лёс за хвост, дачакайцеся, пакуль ён сам павернецца да вас тварам. У вашым жыцці наступае той момант, калі лёс сам вядзе вас па шляху, які вядомы толькі яму. Вам трэба смела ісці і не аглядвацца па баках, не супраціўляцца падзеям, якія адбываюцца з вамі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | | 2 | | 9 | 4 | |
| 6 | | 7 | | | | | 1 | 3 |
| | | | | | 1 | 5 | | |
| | | | | 9 | | 8 | | 1 |
| | | | 3 | | 7 | | | |
| 5 | | 1 | | 8 | | | | |
| | | 4 | 1 | | | | | |
| 1 | 5 | | | | | 3 | | 2 |
| | 7 | 2 | | 5 | | | 9 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



ISSN 1991-7155
9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

тэлетыдзень

● НАДВОР'Е

**22 ліпеня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +16 / +23 | | +18 / +24 | | +18 / +25 | | +21 / +24 | |
| | 739 | ← 1 | 740 | ↖ 4 | 739 | ↖ 4 | 735 | ↗ 3 |
| Вільня | +15 / +23 | | +17 / +24 | | +17 / +24 | | +20 / +21 | |
| | 745 | ← 2 | 747 | ← 3 | 750 | ↖ 5 | 741 | ↗ 6 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 5.09
Захад 21.28
Даўжыня дня 16.19

Усход 4.01
Захад 20.31
Маладзік




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**АШМЯНЫ**

Мінімальная тэмпература +8,3 °С у 1978 годзе
Максімальная тэмпература +31,8 °С у 1992 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 25,7 мм у 2011 годзе
Паводле meteoinfo.by

## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

# Як часта даводзіцца ездзіць на "папутцы"?



**Анастасія Літвінковіч, юрыст:**

– Гэта не вельмі бяспечны варыянт. Але сама прыбягаю да яго, калі спазняюся на аўтобус.



**Арсень Дрозд, механік-кіроўца:**

– Яшчэ ні разу так не ездзіў. Карыстаюся грамадскім транспартам. Думаю, "папутка" дастаткова зручны варыянт пад'ехаць. Але, безумоўна, рызыка ёсць, бо не ведаеш, да каго садзішся ў машыну.



**Дар'я Шумская, абітурыентка:**

– Я баюся ездзіць на "папутках". Стараюся пазбягаць такога віду транспарту, аддаючы перавагу аўтобусу і электрычцы.



**Наталля Зайцава, цырульніца:**

– Я да гэтага стаўлюся адмоўна. Сама ніколі такім чынам не вандравала і не хачу, бо гэта небяспечна, асабліва ў наш час.



**Ала Шыдлоўская, настаўніца:**

– Рэдка, калі не паспяваю на электрычку. Думаю, што чалавек, які спыняецца дзеля вас, – бескарыслівы. Ён разумее, што не заробіць на гэтым, але затое зможа пагаварыць з вамі аб усім. Я сама кіроўца, і калі на дарозе сустракаюцца людзі, то спыняюся.



**Рэгіна Вараўка, інжынер:**

– Даводзіцца часта. У мяне дача ў 50 кіламетрах ад Мінска. Лічу гэта за звычайны транспарт. Чаму не? Рызыка ёсць, таму, калі збіраюся сесці, прыглядаюся да кіроўцы. Часта па твары і паводзінах можна зразумець, ці варта садзіцца да такога чалавека.



**Лаліта Ткачова, студэнтка:**

– Калі няма іншых варыянтаў, то карыстаюся. Вядома, рызыкую. Але за ўвесь час мне ні разу не трапляліся неадэкватныя асобы. Я люблю мець зносіны з людзьмі, умею завесці размову. З некаторымі я пазнаёмілася і падтрымліваю добрыя стасункі і цяпер.

**Падрыхтавала Кацярына КАСЦЕВІЧ, студэнтка Інстытут журналістыкі БДУ.**

## Чытайце праз тыдзень:

● **Прыезд археолагаў у Ілью ужо стаў штогадовым і не здзіўляе мясцовых жыхароў. Адны вяскоўцы частуюць сталічных гасцей вясковымі прысмакамі, другія назіраюць за раскопкамі на месцы старой гуты. Якімі знаходкамі парадавала Ілья сёлетнюю археалагічную экспедыцыю, чытайце ў наступным нумары.**

## ● ПРОСТА АНЕКДОТ

Бабулі Соні вельмі спадабаўся скайп:

– Ты глянь, якая штука! Нібыта і госці ў нас, а карміць не трэба!

***

У прынцыпе, жанчына можа і прамаўчаць. Але справа ў тым, што ў жанчыны няма такога прынцыпу.

***

Адзінае мора, якое я бачыў гэтым летам, – гэта мора працы.

***

Добра, калі ёсць што ўспомніць. Дрэнна, што ўнукам пра гэта не раскажаш.

***

Дзесяць вечара:

– Ой, ды не буду я ваша караоке спяваць!

Дзве гадзіны ночы:

– Цячэ вада ў ярок! Цячэ вада ў ярок!

Пяць раніцы:

– Хто схаваў мікрафон?!

***

Прачытала ўнуку казку. Цяпер сама са святлом сплю.

***

А мне, ведаеце, дажджлівае надвор'е падабаецца. Гуляць усё роўна няма з кім, а памідоры самі сябе не пальюць.

***

Шэф сёння так доўга крычаў на мяне, што я нават ляпнуў:

– Так, дарагая!

***

Леў сабраў усіх звяроў і кажа:

– Сёння будзем есці самага палахлівага.

Выбягае заяц:

– Дзіка ў крыўду не дам!

# Свята "Ракуцёўскае лета" зладзяць 30 ліпеня

МАЛАДЗЕЧНА

**Пачатак свята запланавалі на 12:00 у фальварку Ракуцёўшчына на Маладзечаншчыне.**

У райвыканкаме распавялі, што на свяце выступяць паэты і пісьменнікі з Мінска. Аднак дакладнай праграмы пакуль няма.

Вядома, што будзе працаваць сцэнічная пляцоўка, выстава-продаж вырабаў рамеснікаў, кніжная выстава. Зладзяць майстар-клас, дзе кожны зможа павучыцца плесці вянкі.

У 1911 годзе ў фальварку Ракуцёўшчына адпачываў паэт **Максім Багдановіч**. Тут ён стварыў лепшыя цыклы вершаў і паэмы.

**Аддзел інфармацыі.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№29 (1160) 21.07.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330/190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 680. Падпісана ў друк у 9.00 20.07.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.
Тэл.: (80176) 53-78-04 (рэклама, факс), 53-78-05 (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), 53-78-06 (журналісты), (8029) 573-28-47, 676-84-20. E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.